—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
1
САКАВІКА
1991 г.
№ 8 (3575)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЧЫТАЙЦЕ

### «ЗА НАС ВЫРАШАЮЦЬ ІНШЫЯ...»

**Гутарка з Васілём Быкавым.**

СТАРОНКА 4.

### ЦІ ДЭМАКРАТЫ ДАВЯЛІ ДА КРЫЗІСУ?



**Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ: «Пошукі-роздумы многіх людзей прыводзяць да цвёрдага пераканання, што не Сабчак з Паповым і не Пазняк з Хадыкам разбурылі ўсе гаспадарча-эканамічныя сувязі і абвастрылі да мяжы міжнацыянальныя адносіны... Не радыкалы-рэфарматары ўчынілі крывавую расправу над мірнымі жыхарамі Тбілісі, Баку, Вільнюса і Рыгі, здзекаваліся над смуткаваўшымі па ахвярах Курапат мінчанамі 30 кастрычніка 1988 года...».**

СТАРОНКІ 5, 12.

### СВЕТ ПРАЗАІКА

**Штрыхі да творчага партрэта Віктара Карамазава.**

СТАРОНКІ 6—7.

### ПАКУЛЬ НЕ ЗНІШЧАНЫ АПОШНІЯ СЛЯДЫ...



**А. КЛЯШЧУК: «Як доўга — амаль сорак гадоў — сюды не йшлі да салдат, да вызваліцеляў, ад якіх толькі і засталося ўсяго той памяці, што косці ды скураныя чаравікі... Колькі тут непахаваных, забытых!.. На жаль, пошук іх не ўваходзіў у планы пяцігодак...».**

СТАРОНКА 13.

### «ТОЕ, ШТО НАС ЛУЧЫЦЬ, БОЛЬШАЕ ЗА ТОЕ, ШТО ДЗЕЛІЦЬ»

**Інтэрв'ю апостальскага візататара для беларусаў Англіі а. Аляксандра Надсана.**

СТАРОНКІ 14—15.



# Прэзідэнт СССР— на Беларусі

26 лютага Прэзідэнт СССР, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў прыляцеў у Мінск. У той жа дзень ён сустрэўся з працоўнымі аб'яднання «Мінскі трактарны завод», выступіў перад калектывам Акадэміі навук рэспублікі, прадстаўнікамі творчых саюзаў і інтэлігенцыі г. Мінска, наведаў парламент рэспублікі.

Вось некалькі цытат з выступленняў М. С. Гарбачова.

□

«Я сёння пабуду ў Мінску. Заўтра паеду ў Гомель, паслязаўтра — у Магілёў. Хачу ўсё ўбачыць, паглядзець на ўласныя вочы. Са мной таварышы, якія займаюцца гэтай (чарнобыльскай. — **Рэд.**) праблемай. Мы хочам прымаць саюзны закон, які абараняў бы пацярпеўшых, каб стварыць гарантыі чалавеку, дзе б ён сёння ні аказаўся».

□

«Будзем ісці да рынку, раздзяржаўлення — адпаведны законапраект разглядаецца цяпер у Вярхоўным Савеце. Яно павінна ажыццяўляцца па-свойму, не на запазычаны манер».

□

«Што датычыць рэфарміравання Саюза, я думаю, мы на правільным шляху. Рэспублікі павінны адчуваць сябе паўнакроўнымі гаспадарамі ў рамках сваіх суверэнітэтаў, новых паўнамоцтваў. У цэнтры павінна застацца толькі тое, што трэба ўсім рэспублікам: абарона, энергетыка, транспарт, сувязь і г. д.».

□

«Мы нават спазніліся з перабудовай на многа гадоў. Мы павінны давесці яе да канца, і мы гэта зробім, таму што зваротнага шляху няма, вяртацца няма куды».

## 2 сакавіка ў Мінску адкрываецца Устаноўчы З'езд Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

ПРАЕКТ

# ПРАГРАМНАЯ ЗАЯВА
## Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

Усведамляючы сваю адказнасць за лёс Беларусі, думаючы пра шляхі яе далейшага сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-дзяржаўнага развіцця,

будучы ўпэўненымі, што неабходнымі ўмовамі для выхаду з крызісу і стварэння сапраўднай грамадзянскай супольнасці, сапраўды дэмакратычнай, прававой дзяржавы з'яўляюцца шматпартыйнасць, разнастайнасць формаў уласнасці, свабоднае выяўленне думак, перакананняў, інтарэсаў,

грунтуючыся на традыцыях беларускай сацыял-дэмакратыі пачатку 20-га стагоддзя,

уважаючы сябе часткаю міжнароднага сацыял-дэмакратычнага руху,

зыходзячы з таго, што ў грамадска-палітычным жыцці Рэспублікі належнае месца павінна заняць

левацэнтрысцкая партыя парламенцкага тыпу,

партыя гуманістычных традыцый і прынцыпаў, партыя, якая арыентуецца на агульначалавечыя каштоўнасці,

партыя нацыянальнай згоды і грамадзянскага міру,

партыя абароны правоў і свабод чалавека,

партыя адраджэння нацыянальнай свядомасці, самавызначэння беларускага народа і павагі да правоў іншых нацыянальнасцяў,

партыя ўзважаных падыходаў, партыя рэформаў, цывілізаваных і негвалтоўных метадаў у сваёй дзейнасці,

партыя дыялога з усімі дэмакратычнымі сіламі,

мы, Устаноўчы З'езд, заяўляем аб утварэнні Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады (БСДГ, Грамада).

Мэтаю дзейнасці БСДГ з'яўляецца стварэнне эканамічна-сацыяльнай сістэмы, якая забяспечыць багатае (заможнае), поўнае сэнсу жыццё кожнаму чалавеку на аснове наступных прынцыпаў:

— **свабоды**, якая разумеецца як права чалавека самому прымаць рашэнні, якія не чыняць шкоды іншым людзям, як права грамадства і народа самім вызначаць свой лёс;

— **роўнасці**, якая грунтуецца на прызнанні таго, што ўсе людзі роўныя ў сваіх правах і не павінны размяжоўвацца паводле класавых, расавых, рэлігійных адзнак;

— **салідарнасці**, якая ажыццяўляецца праз супрацоўніцтва паміж асобнымі грамадзянамі і рознымі групамі грамадзян і выключае гвалт у барацьбе за дасягненне сацыяльных і палітычных мэтаў;

— **дэмакратыі**, якая прызнае крыніцаю ўлады грамадзян і народ;

— **прыярытэту права**, калі кіраванне грамадствам і дачыненні паміж людзьмі грунтуюцца на законах, якія з'яўляюцца выяўленнем волі грамадства і служаць яго інтарэсам.

(Працяг на стар. 15).

# Кола Дзён

**У прыродзе пасля маразоў заўсёды бывае адліга. Прырода палітыкі, аднак, больш складаная, і прадказаць змены палітычнага надвор'я куды цяжэй. Толькі за апошнія дні мы адчулі на сабе і сухавей «халоднай» ідэалагічнай вайны («сацыялізм альбо смерць!») і замаразкі ў эканоміцы. І ўсё разам — у густым тумане масавай дэзінфармацыі. Што было на тыдні?**

**21 лютага**

група дэпутатаў расійскага парламента ад фракцыі камуністаў патрабавала адстаўкі Ельцына.

Тым часам становіцца вядома, што намечаная раней сустрэча ў Мінску кіраўнікоў Беларусі, Казахстана, РСФСР і Украіны, прапанаваная Старшынёй Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі, сарвалася.

Апублікавана рашэнне Вярхоўнага Савета БССР устанавіць пражытковы мінімум — 125 рублёў.

**22 лютага**

ў Рыгу з'язджаюцца упаўнаважаныя прадстаўнікі Латвіі, Літвы, Эстоніі, Арменіі, Беларусі, Малдовы, Украіны, Кыргызстана, каб абмеркаваць праблемы дэцэнтралізацыі эканомікі краіны і інтэграцыі ў еўрапейскі рынак.

**23 лютага**

Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марского Флоту адзначаны не толькі сціплымі на гэты раз феерверкамі, але і масавымі мітынгамі вайскова-патрыятычнага характару ў Маскве і іншых буйных гарадах. У сталіцы Беларусі, аднак, у гэты дзень мітынговай актыўнасці на вуліцах не назіралася.

У Мінску адбыўся І з'езд Беларускай сялянскай партыі.

**24 лютага**

ў раёне Персідскай затокі сілы антыіракскай кааліцыі перайшлі да наземных баявых дзеянняў.

У Брэсце адбылася рэгіянальная канферэнцыя БНФ і іншых дэмакратычных сіл.

**25 лютага**

Вярхоўны Савет СССР назваў «незаконным» рашэнне сямі саюзных рэспублік не праводзіць рэферэндум і абвясціў яго абавязковым на усёй тэрыторыі СССР. Пры гэтым Старшыня Вярхоўнага Савета СССР Лук'янаў растлумачыў: там, дзе за захаванне Саюза прагаласуе менш паловы выбаршчыкаў, будзе дзейнічаць па-ранейшаму... Канстытуцыя Саюза ССР. А старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Арлоў заявіў аб тым, што права праваддзення рэферэндуму ў рэспубліках, якія адмаўляюцца ад яго арганізацыі, будзе прадастаўлена... працоўным калектывам і грамадскім арганізацыям на прадпрыемствах.

**27 лютага**

завяршылася ІІІ-я сесія Вярхоўнага Савета БССР. Зноў дэпутаты мяркуюць сабрацца ў маі.

**28 лютага**

спынены баявыя дзеянні ў Кувейце. Садам Хусейн згадзіўся выканаць усе рэзалюцыі ААН.

# ЗА ЗЯМЛЮ, ЗА ВОЛЮ!

## Першы з'езд Беларускай сялянскай партыі

Я вынес у загаловак гэтай нататкі словы з лозунга, што вісеў у зале Дома літаратара, дзе праходзіў з'езд. Больш як семдзесят гадоў назад бальшавікі паабяцалі даць сялянам зямлю і волю, і вось цяпер даводзіцца змагацца за іх зноў. Што хочацца адразу падкрэсліць — усе выступлённі на з'ездзе былі аднадушнымі ў ацэнцы сённяшняга стану занядбанай беларускай вёскі. Усё гэта, як адзначалі многія прамоўцы, — заканамерны вынік кіравання сельскай гаспадаркай камандна-адміністрацыйнай сістэмы, якая вынішчыла ў селяніна яго адвечную любоў да зямлі, ператварыла яго ў наёмнага рабочага, адчужанага ад вынікаў сваёй працы. Усе зыходзіліся на адным — далей так жыць нельга.

Загадчык Заходняга аддзялення УАСГНІЛ акадэмік І. Нікітчанка, які зрабіў асноўны даклад, гаварыў сярод іншага, пра няспынныя эксперыменты ў аграрным сектары эканомікі, якія праводзіліся ЦК КПСС і ўрадам краіны. З 1965 года было, напрыклад, прынята 21 рашэнне і 86 пастаноў, прысвечаных «адраджэнню» сельскай гаспадаркі, але яны не далі належнага эфекту.

Па-ранейшаму цывілізацыя абыходзіць большасць беларускіх вёсак, дзе сяляне жывуць у дамах без усякіх выгод, дзе няма крамаў, лазняў, катастрафічна не хапае медыцынскіх устаноў, школ, клубаў. Па-ранейшаму калгасам і саўгасам дыктуюць зверху структуру пасяўных плошчаў, без уліку патрэб гаспадарак ідзе размеркаванне крэдытаў, будаўнічых матэрыялаў і г. д.

Трыста гаспадарак у рэспубліцы маюць 7—10-працэнтную рэнтабельнасць і калі б не салідныя грашовыя надбаўкі, якія плаціць дзяржава за здадзеную прадукцыю, яны б даўно абанкруціліся. Толькі сялянская партыя зможа па-сапраўднаму абараніць інтарэсы працаўнікоў,— рэзюмаваў прамоўца.

Выступіўшыя на з'ездзе народныя дэпутаты У. Станкевіч, Л. Зданевіч, арандатары А. Цімошчанка, В. Петачэнка, фермер В. Чалядзінскі, пенсіянер А. Якімовіч, пісьменнік К. Цвірка, дактары навук У. Улашчанка і В. Акулаў, інжынер В. Корнеў, старшыня аргкамітэта Я. Лугін гаварылі аб шляхах ператварэння наёмнага сельскагаспадарчага работніка ў гаспадара зямлі, у прыватнасці, падкрэслівалася, што калгасы і саўгасы трэба ператварыць у асацыяцыі незалежных фермерскіх гаспадарак, сельскагаспадарчых кааператываў.

У гэтай сувязі было адзначана, што прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі Закон аб зямлі, які прадугледжвае правы калгасніка на перадачу свайго зямельнага ўчастка ў спадчыну,— паўмера, бо ўсё роўна селянін застаецца залежным ад таго ж калгаса ці саўгаса. Варта яму перамяніць месца жыхарства, як ён пазбаўляецца права на «сваю» зямлю. Сутнасць жа прыватнай уласнасці на зямлю—яе недатыкальнасць, абароненая законам.

Гаварылася на з'ездзе і аб тым, што кіраўнікі калгасаў і саўгасаў у адзін голас сцвярджаюць, што сяляне ўсё роўна не возьмуць зямлю ў прыватнае карыстанне, бо людзі, маўляў, адвучыліся працаваць аднаасобна. Але факты сведчаць аб тым, што пераважная большасць камандзіраў сельскагаспадарчай вытворчасці рэзка адмоўна ставіцца да тых, хто хоць сёння гатовы ўзяць яе ў арэнду. Выйсце адно — зямлёй павінен распараджацца не калгас і не саўгас, а мясцовы Савет, які б аднолькава ставіўся і да патрэб калгасаў, і да патрэб «аднаасобнікаў». І яшчэ адзін «аргумент» партыйна-дзяржаўнай наменклатуры: прыватная ўласнасць на зямлю прывядзе да з'яўлення кулакоў-крывасмокаў і парабкаў. Але ж дзе яшчэ, спытаў адзін з прамоўцаў, так эксплуатуюць працоўнага чалавека, як у нас. У тых жа капіталістычных Злучаных Штатах Амерыкі заробак сельскагаспадарчага рабочага складае 70—75 працэнтаў ад кошту выробленага ім прадукта, у нас — 15—20 працэнтаў.

Некаторыя прамоўцы засяродзілі сваю ўвагу на праблемах фермерства, фермерскіх гаспадарак. Была выказана прапанова стварыць спецыяльны крэдытны банк, які б дапамог фермерам хутчэй стаць на ногі, вызваліўшы іх ад кабалы дзяржаўных банкаў.

Зайшла на з'ездзе гаворка і пра створаны фактычна пад эгідай ЦК КПБ так званы Саюз аграрнікаў Беларусі. Стварэнне яго — спроба камандна-адміністрацыйнай сістэмы захаваць без змен існуючы калгасна-саўгасны лад.

З'езд зацвердзіў статут Беларускай сялянскай партыі, прыняў Заяву, дзе вызначыў яе мэты і задачы. «Беларуская сялянская партыя,—гаворыцца ў ёй,— з'яўляецца палітычнай арганізацыяй парламенцкага тыпу... Галоўная задача партыі на сучасным этапе — ажыццяўленне зямельнай рэформы, адраджэнне сялянства шляхам вяртання яму правоў і ўласнасці на зямлю і ўсе сродкі вытворчасці, свабоднага выбару форм гаспадарання... Сялянская партыя выступае за сацыяльна-эканамічнае пераўтварэнне ў вёсцы, за якасна новыя ўмовы жыцця і побыту вяскоўцаў у адпаведнасці з дасягненнямі сучаснай цывілізацыі».

На з'ездзе былі прыняты таксама заявы аб рэферэндуме 17 сакавіка 1991 года і аб падтрымцы прапаноў Старшыні Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі Б. М. Ельцына па правядзенні радыкальных эканамічных і палітычных рэформ у краіне.

На з'ездзе былі абраны старшыня партыі, якім стаў Я. Лугін — кіраўнік сельскагаспадарчага кааператыву ў Глускім раёне, два яго намеснікі і Цэнтральная рада.



Дыскусія працягвалася і ў перапынках...

Фота Ул. КРУКА.

**М. ЗАМСКІ.**

ПАМЯРКУЕМ

# Як і чаму старэюць словы

З дзіўнай хуткасцю старэюць у нас словы і выразы — намнога хутчэй, чым людзі. Куды, напрыклад, падзеліся «чалавечы фактар», «паскарэнне», якая карова іх языком злізала? Паспела прымільгацца і добра-такі намазоліла слых і вочы «перабудова» — наступная кандыдатка ў нябыт. Альбо згадаем, колькі мы пісалі пра «свежы вецер перамен». «Нізы» гэтаму ветру радаваліся, «вярхі» ставілі сабе ў заслугу, і ўсе разам дружна праслаўлялі. І што ж? Фортку, аказваецца, адкрылі роўна настолькі, каб мы канчаткова не атупелі ад недахопу кіслароду. І зноў прычынілі — бо ад лішку апошняга ў людзей аслабленых бываюць млоснасць і галавакружэнне. Пагарлалі, палюдскаваліся, прадэманстравалі ўсяму свету сваю здольнасць да прагрэсу (о, наіўны Захад!), пара і «честь знать», як кажуць рускія...

Неслухмянаму народу, даводзіла адна бабка ў чарзе, патрэбен строгі бацька. Так, ёсць, на жаль, сем'і, дзе малыя толькі на папругу рэагуюць, дабром і пераканаңнем іх не праймеш. Дык жа выхаваны адпаведна, а значыць — не вінаваты!

Пакрыўджаны «выхавацель» прыйшоў да прытомнасці пасля перабудоўчага стрэсу, цёпла развітаўся з пенсіянерамі, згрупаваў свае парадзелыя рады — і рушыў у наступ. Нядаўна вуснамі дэпутаткі Вярхоўнага Савета БССР ён заклікаў да актыўнасці тых, хто яшчэ нядаўна схільны быў сімпатызаваць юнай дэмакратыі. Маўляў, вызначайцеся, а то цішком, баючыся, некаторыя тут нейкія адозвы падпісваюць... Нават паэзія ў ход пайшла — пра нейтральную паласу, па якой б'юць і свае, і чужыя. Папярэджанне зразумелае, але прыклад няўдалы. Яшчэ ў нас, дзякаваць Богу, танкі газонаў не барануюць, а «камітэт нацыянальнага выратавання» мае большасць у парламенце.

А ўвогуле было б пажадана, каб народныя дэпутаты выступалі з агульнанародных, а не вузкапартыйных пазіцый. Ці, можа, такім чынам яны дзякуюць за ўдала арганізаваныя выбары?

І яшчэ адно слова на вачах праходзіць сумную эвалюцыю — «дэмакраты». Без іроніі і сарказму яго цяпер мала хто вымаўляе. А ў чым, уласна кажучы, іх віна? Што з заменай пары вінцікаў і шасцярон механізм не мяняе сваёй функцыі? У Беларусі, праўда, дэмакратам высока ўзляцець не далі, і ў тым ёсць свая перавага: падаць будзе небалюча.

Помніцца, пры абмеркаванні ў Вярхоўным Савеце БССР трагічных падзей у Літве Н. Гілевіч, аналізуючы вынікі паездкі ў Вільнюс, кінуў папрок мясцовым дэмакратам за ігнараванне нацыянальных праблем. Слушны папрок, справядлівы. Бо калі мы ўсе станем на адзін твар, калі давершыцца фарміраванне савецкага монстра, які і свой дом не ўпарадкуе, і ў чужым ног не вытра, то свабода тады бядой абернецца ці не для ўсяго свету. Ды маюць месца і іншыя апасенні. Блага, калі дэмакрат не адраджэнец, ды калі адраджэнец не дэмакрат — таксама варыянт не лепшы. «Мараль: на жаль, такія ёсць у нас падчас» (універсальны фінал для баек, прыдуманы нейкім дасціпнікам). Усё яшчэ цепліцца ў беларуса-патрыёта ілюзія, што галоўнае — мову захаваць, а там хоць трава не расці. Страціўшы галаву (годнасць), па кудзёрках плачагалосіць (як быццам яго нехта пашкадуе!), ад канфрантацыі часцей ухіляецца і ўсё нечага чакае. Мо з мора пагоды?

У ідэале дэмакратычныя сілы павінны былі б далучыцца да адраджэнцкай справы, а шчырыя нацыяналы — пазбавіцца абмежаванасці. Не хацелася б думаць, што жаданая раўнавага — утопія, што двум рэчышчам цяжка будзе злучыцца ў адну магутную раку. Ва ўсякім разе, павінен супадаць напрамак іх руху. Няблага было б таксама кансалідавацца ў межах сваіх плыняў, каб не даваць падстаў для жартаў тыпу: «Дзе два беларусы, там тры партыі». Ой, няпроста згаварыцца, прыйсці да згоды тым, у каго асабістая годнасць ( з-за адсутнасці ўсеагульнай) вырастае да гіганцкіх памераў. Няпроста, ды — неабходна. Інакш непрыкметна састарэе, зачэзне разам з паняццем і самае святое для нас слова — Беларусь.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# ДЭМАКРАТЫЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА

**Як мы раней паведамлялі, у Мінску створаны Рэспубліканскі дэмакратычны дэпутацкі клуб.**
**Расказаць аб мэтах і задачах гэтай арганізацыі мы папрасілі члена каардынацыйнага савета клуба дэпутата Мінсавета Андрэя ЦЯЛЬКОЎСКАГА.**

— Рэспубліканскі клуб створаны з мэтай аб'яднання і каардынацыі намаганняў дэмакратычных сіл для мірнай ліквідацыі таталітарнага рэжыму, выпрацоўкі дэмакратычнай альтэрнатывы развіцця грамадства. Актывізацыі рэакцыйных сіл неабходна супрацьпаставіць інтэлектуальны патэнцыял творчай і навуковай інтэлігенцыі рэспублікі.

Намі была прынята дэкларацыя прынцыпаў. Сярод іх:

— адмаўленне таталітарызму ў любых праявах і прыхільнасць да ідэй ненасілля;

— непрынянцце класавай і нацыянальнай выключнасці, міжнацыянальная згода;

— роўнасць усіх партый і грамадскіх аб'яднанняў перад законам;

— дэпартызацыя арміі, КДБ, МУС, праваахоўных органаў, сістэмы дзяржаўнай і народнай асветы;

— раўнапраўнасць усіх форм уласнасці, у тым ліку і прыватнай уласнасці на зямлю;

— сацыяльная абарона грамадзян ва ўмовах пераходу да рынка;

— садзеянне адраджэнню і развіццю беларускай нацыянальнай культуры, мовы.

Асноўныя формы дзейнасці клуба — рэгулярны абмен інфармацыяй, узгадненне і ўдакладненне пазіцыі дэмакратычных блокаў, Саветаў розных узроўняў, арганізацыя сумесных палітычных мерапрыемстваў.

Рэспубліканскі клуб зараз аб'ядноўвае больш за сто дэпутатаў. Дэпутаты, якія зацікавяцца гэтай інфармацыяй, могуць звяртацца ў Мінскі гарсавет, пакой 411 ці па тэлефоне 20-20-89.

**Запісаў Сяргей ШАПРАН.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА: СТАНОВІШЧА АБВАСТРЫЛАСЯ

Такі лейтматыў сходу мінскага гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў і школ, які адбыўся 15 лютага ў Доме літаратара. У ім прынялі ўдзел бацькі і настаўнікі, пісьменнікі, кіраўнікі Міністэрства народнай адукацыі і ВНУ г. Мінска. Прысутнічалі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч і старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па народнай адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч.

У прамове старшыні ГБК А. Шымука і выступленнях падкрэслівалася, што нават сённяшні, крызісны стан беларускіх класаў і школ у Мінску, надалей можа яшчэ пагоршыцца. Ужо цяпер узнікла праблема падручнікаў: іх не надрукавалі і збіраюць па ўсёй рэспубліцы. Гэтаксама не хапае настаўнікаў, а ў новым навучальным годзе праблема кадраў можа ўвогуле замарудзіць «беларусізацыю» адукацыі, бо ВНУ па сутнасці не павялічылі выпуск спецыялістаў, якія валодаюць мовай.

Выказаны дакоры МНА і ГУНА, якія два гады назад не здолелі прадугледзець патрэбы падручнікаў і выкладчыцкіх кадраў. Крыху заспакоіла сцвярджэнне намесніка міністра народнай адукацыі Л. Сухнат аб тым, што МНА — за стварэнне толькі беларускамоўных гімназій і выпрацоўку цэласнай канцэпцыі нацыянальнай школы. Праўда, пакуль толькі падбіраецца часовы навуковы калектыў для яе распрацоўкі.

Кіраўнікі БДУ імя У. І. Леніна, МДПІ імя М. Горкага, МІФК і МІКа праінфармавалі сход, што беларусізацыя навучальнага працэсу ў ВНУ адбудзецца за тэрмін 5—10 гадоў, не раней, згодна Закону «Аб мовах у Беларускай ССР».

Прагучалі слушныя прапановы па «дэпалітызацыі» падручнікаў для пачатковых класаў, прапанавана ўвесці для I—9 класаў новы прадмет — «Беларусазнаўства», гуртаваць беларускія групы ў ВНУ з ліку студэнтаў старэйшых курсаў і інш.

У выніковую пастанову сходу ўвайшлі пералічаныя прэтэнзіі і прапановы. Заяўлена, што «ў выпадку непрынянцця міністрам народнай адукацыі БССР т. М. І. Дземчуком дзейсных захадаў па выпраўленні катастрафічнага стану беларускай нацыянальнай школы да 1 чэрвеня 1991 г., сябры камітэта вымушаны будуць звярнуцца ў Вярхоўны Савет БССР і Савет Міністраў БССР з патрабаваннем вызвалення яго ад займаемай пасады разам са сваімі намеснікамі». Такія ж папярэджанні атрымалі кіраўнікі ГУНА.

Гарадскі бацькоўскі камітэт звярнуўся да народных дэпутатаў БССР і Мінгарсавета з просьбай узяць пад кантроль працу Міністэрства народнай адукацыі БССР і ГУНА г. Мінска.

Ці чакаць дадатных зрухаў?

**Наш кар.**




НА ПАВАРОЦЕ

# ДЗІЎНЫ ВІЗІТ

...Даўганосыя «ЗіЛы» імкнуліся адарвацца ад мокрага асфальта, прагна ўгрызаліся ў слотнае паветра «Волгі». Чорна-белай чарадою прамільгнуў на вечаровым праспекце саноўны картэж. Прэзідэнт з'язджаў з Мінска гэтаксама хутка, як нечакана ён і з'явіўся ў беларускай сталіцы.

Гэта быў дзіўны візіт.

Здзіўляла, вядома, не адсутнасць якой бы ні было помпы. Мінулі тыя часы, калі з падобнай нагоды па-святочнаму прыхарошвалі вуліцы (іх цяпер, здаецца, увогуле не прыбіраюць), калі на паліцы і без таго не пустых крам падкідалі далікатэсаў, а на маршруце следавання высокага госця выстройваліся групы радасных грамадзян з плакатамі зацверджанай тэматыкі.

Мінулі і тыя часы, калі адбывалася трыумфальнае шэсце Архітэктара перабудовы па гарадах і вёсках краіны, калі «хаджэнне ў народ», нягледзячы на косназыкасць вулічных гутарак, усё яшчэ абнадзейвала, калі ўслед за лідэрам хацелася паверыць у тое, што ідэі «новага мыслення» сапраўды авалодалі масамі і што трэба толькі патрываць два-тры гады, а там...

Сёння Прэзідэнт амаль не вандруе па краіне. І, насмелюся заўважыць, правільна робіць. Імідж, набыты пад час папулісцкіх «сустрэч з працоўнымі калектывамі», не з'яўляецца надзейным капіталам для палітычнага дзеяча такога рангу, а цяжар праблем, у якіх угразла наша грамадства, ужо настолькі невычэрпны, што яго не скінеш і дзесяткам «праграмных выступленняў».

Чым жа дзіўны быў візіт Міхаіла Гарбачова ў Мінск?

Найперш — сваёй раптоўнасцю. «З пэўных крыніц пэўна стала вядома» пра гэтую падзею толькі ўвечары напярэдадні. Ці ж не паказальна, што з Прэзідэнтам СССР размінуўся прэм'ер-міністр Беларусі, які выправіўся ў далёкую Японію менавіта па чарнобыльскіх справах? Зрэшты, і сам М. Гарбачоў прызнаўся, што даведаўся пра сваю маючую адбыцца камандзіроўку ледзь не апошнім.

Незразумелае заўсёды бянтэжыць, дае падставу для розных здагадак. Уражанне такое, нібыта візіт на Беларусь быў для Прэзідэнта свайго роду «запасным варыянтам». Магчыма, трэба было з'ехаць з Масквы, якая сёння раскалваецца «за» і «супраць» Ельцына... Магчыма, спатрэбілася крыху часу, каб счакаць, як будуць далей разгортвацца падзеі ў Кувейце... Магчыма, магчыма...

У любым, аднак, выпадку візіт у нашу рэспубліку найбольш падыходзіў для «запаснога варыянту». Стабільная — у параўнанні з іншымі рэгіёнамі — сацыяльна-эканамічная сітуацыя не вымагала значных высілкаў палітычнай волі і звычайнага нервовага напружання. (І дзякаваць Богу, хоць, калі ўдумацца, што паймелі мы за сваю памяркоўную паслухмянасць?).

Чым яшчэ здзівіў прэзідэнцкі візіт, прынамсі, яго мінская частка?

Магчыма, гэта мае асабістае назіранне, але гэты візіт М. Гарбачова не вызначаўся празмернай павагай да дэклараванага нашай рэспублікай суверэнітэту. Досыць «экстэрытарыяльная» сустрэча на трактарным заводзе, надзвычай рэзкая прамова ў Акадэміі навук — і зусім кароткае, мімаходзь, выступленне перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Пра што казаў Прэзідэнт у Мінску? Пра тое, ці не заблукалі мы па шляхах перабудовы, пра пераход да рынкавых адносін, пра маючы адбыцца рэферэндум, пра вернасць сацыялістычнай ідэі і сацыялістычнаму выбару...

Безумоўна, дамінантай праграмнага выступлення стаў аналіз расстаноўкі палітычных сіл у краіне. Тым самым была працягнута гарачая спрэчка з Ельцыным і іншымі «так званымі дэмакратамі». Але, магчыма, упершыню ў выступленні Прэзідэнта нельга было не заўважыць імкненне паставіць у гэтай прынцыповай спрэчцы кропку. Спрабуючы разабрацца, дзе ў нас левы бок, а дзе правы, М. Гарбачоў адназначна ўсклаў адказнасць за глыбокі крызіс на апазіцыйныя сілы.

Трывожная нота. Але яна прагучала ва ўдзячнай аўдыторыі. Праўда, гэта мяне ніколькі не здзіўляе.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

АДГАЛОСКІ

## БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ ЯДНАЮЦЦА

**Як мы ўжо паведамлялі, у Маскве ў студзені г.г. створаны аргкамітэт згуртавання беларускіх вайскоўцаў. Якія яго мэты?**

У «Звароце да беларускіх вайскоўцаў» камітэт адзначае, што нацыянальная самасвядомасць пачынае абуджацца і ў беларускіх вайскоўцаў. Створаны згуртаванні афіцэраў-беларусаў у Казахстане, на Далёкім Усходзе. Але пакуль беларускі вайсковы рух раз'яднаны. «Мы звяртаемся да ўсіх беларускіх вайсковых згуртаванняў, да ўсіх свядомых афіцэраў беларусаў з прапановай дасылаць лісты са звесткамі пра беларускі вайсковы рух і прапановы па правядзенні ўстаноўчага з'езда беларускіх вайскоўцаў», — гаворыцца ў «Звароце». Ён падпісаны старшымі лейтэнантамі А. Андрыяшкам, С. Каўцэвічам, лейтэнантамі Г. Бураком, В. Кунцэвічам, А. Бядой, А. Хіжняком, прапаршчыкамі І. Горбачам, А. Яloўскім. На жаль, сярод іх няма асоб старэйшага афіцэрскага складу ды генералаў. Можа, не хочуць пакуль рызыкаваць?

Адрас аргкамітэта: 105203, Масква, вул. Першамайская, 128/9-73.

## САКРАТАРУ ГАРКАМА НЕ ПАДАБАЕЦЦА

Партыйная большасць у Саветах — паўсюдная з'ява. Наваполацкі гарадскі Савет народных дэпутатаў — рэдкае выключэнне з гэтага правіла: дэмакратам тут з-за іх колькасці і ўплыву нават не давялося ісці ў апазіцыю, як у ВС.

Моцны дэмакратычны рух Наваполацка аб'яднаны ў «Дэмакратычным форуме», які і здолеў законным шляхам прыйсці да ўлады. Непазбежныя напачатку промахі дэпутатаў-дэмакратаў спакваля пераадольваюцца. Мела рацыю заснаванне ДФ уласнай газеты — інфармацыйнага бюлетэню, каб праз яго раіцца з выбаршчыкамі, як правільна вырашаць праблемы. Для горада такая тактыка ДФ толькі на карысць.

А вось былым манапалістам ад улады поспехі палітычных канкурэнтаў не зусім даспадобы. Прынамсі, новае, плюралістычнае выданне ДФ успрымаецца камуністычнымі лідэрамі Наваполацка як «возмутитель спокойствия» ў былой аднапартыйнай цішы. І яны гэтага не ўтойваюць. Першы сакратар гаркама КПБ У. Панталёў на сесіі гарсавета ахрысціў бюлетэнь ДФ «мутью», а ў свойскім асяродку — на партсходзе ВА «Палімір» — параўнаў яго змест з «ілжывасцю гебельсаўскай прапаганды». Відаць, нервы здаюць...

А тым часам справы бюлетэня неблагія. У № 2 /7/ за г. г. рэдакцыя спачувае тым чытачам, хто не прыдбаў папярэднія нумары: тыражы раскуплены цалкам...

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# АЧЫШЧЭННЕ ЯК ПРЫЧАШЧЭННЕ

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ




У першай кнізе паэзіі Валерыя Грышановіча «Стронцый у кроплі расы» (выдавецтва «Юнацтва») прысутнасць нашага неспакойна-бурлівага, востра-пераацэначнага часу не дэкларуецца гучнымі эпітэтамі і праграмнымі запэўніваннямі. Час уваходзіць у моўную тканіну вершаў як сама рэальнасць. Паэт адчувае сябе далучаным і да таго, што адбываецца сёння, і да таго, што было раней. І гэта не даніна модзе — у аднолькавай ступені і жыццёвай, і літаратурнай, а адметнасць таленту В. Грышановіча. Дарэчы, на гэта ва ўступным артыкуле да зборніка звярнуў увагу Уладзімір Гніламёдаў: «Духоўны свет паэта — свет нашага сучасніка, які адчуў усе зменлівасці трагічнага XX стагоддзя непасрэдна сам ці ў парадку генетычнага пераймання».

У якасці прыкладу крытык прыводзіць гэтыя радкі:

**Светом жгучей любви**
**я обвит,**
**а Вселенная**
**озарена.**
**Вырос я из зерна**
**от трагического обмолота**
**с генетическим кодом войны.**
**Мои корни она выжигала —**
**ниву отчую на недород**
**обрекала**
**и градом металла**
**выбивала мой род и народ.**

Верш завяршаецца так (У. Гніламёдаў не цытуе): «Но на поле, войной опаленном, под раскаты живительных гроз я упорным росточком зеленым пророс».

Паэзія В. Грышановіча і «трымаецца» на гэтым традыцыйным супастаўленні. Публіцыстычна ўсхвалявана, тэмпераментна вядзе гаворку аўтар, задумваючыся, хто мы ёсць на грэшнай зямлі, адкуль прыйшлі на яе і куды імкнёмся. Надараюцца моманты, калі пачынае здавацца, што публіцыстычнасць возьме верх, гучная «правільнасць» звядзе на нішто паэтычнасць, але, на шчасце, аўтар з гонарам выходзіць з гэтай складанай сітуацыі.

Хочацца прыгадаць і такія радкі В. Грышановіча:

**— Я — З Е М Л Я!!!**

**Я — б о с а я.**
**Теплой обуви не имею.**
**А на пятки мои наступает,**
**к у с а я,**
**Зима термоядерная,**
**с катаклизмами.**
**Перед нею**
**я — немею.**

Радкі гэтыя з паэмы («рок-паэмы», як вызначыў жанр сам аўтар) «Вока бездані». Паэма і на самай справе нечаканая. І тым, што яе дзеянне адбываецца «ад Патопа да Перабудовы і далей», і што сярод дзейных асоб твора «Паэт, Каханне; Зямля, якая крычыць; Каін Коба і яго дублёр Яга» і многія іншыя, уключаючы неадушаўлёныя паняцці і прадметы, і што самі падзеі пастаянна мяняюцца ў часе і прасторы... Паэт імкнецца як мага лепей і паўней спасцігнуць драматычнасць, нават трагічнасць становішча, у якім апынулася чалавецтва, адчуць самому і даць зразумець іншым, наколькі страшная тая бездань, што можа праглынуць усіх нас.

Нельга не звярнуць увагі і на назву кнігі. «Стронцый у кроплі расы»... Нечаканае, здавалася б, несумяшчальнае супастаўленне. Але што зробіш — такія рэаліі паўсядзённасці. Як тут не пагадзіцца з В. Грышановічам: «обречен, как Акрополь, на бессмертье Чернобыль». Адзінае, на што застаецца спадзявацца, што паэзія, як і ўвогуле прыгожае пісьменства, будзе садзейнічаць духоўнаму ачышчэнню чалавека, каб Чарнобылі не паўтарыліся.

**В. НУПРЭЕНКА.**

**Звычайна лічыцца, што асоба паэта больш складаная і цікавая, чым асоба творцы празаічных вобразаў. Проза ёсць проза — што з яе возьмеш. Фіксуе яна ў адпаведнасці са сваімі эстэтычнымі законамі звычайныя пласты жыцця з усімі яго дробязямі, трымаецца канкрэтных фактаў, абмалёўвае іх дакладна і эмацыянальна стрымана. Празаік уяўляецца натураю надта зямною, занятаю стaранным адборам ды класіфікацыяй жыццёвага матэрыялу, пазбаўленага высокага палёту фантазіі. І гэта, напэўна, таму, што празаічны твор выглядае як кавалак жывое рэчаіснасці, дае яе аўтэнтычны адбітак. Аднак жа момант цуду, загадкі, уласцівы ўсякаму мастацтву, моцны і ў прозе, хаця не кідаецца так у вочы. Проза таксама ўзрушае нас нечаканасцю адкрыцця чалавека, свету. Што ж датычыць пісьменніцкіх індывідуальнасцей, то празаікі захапляюць асаблівай аб'ёмнасцю, шматграннасцю ўспрымання жыцця, арыгінальнасцю мыслення, здольнасцю маляваць словам.**

# СВЕТ ПРАЗАІКА



## Штрыхі да творчага партрэта Віктара Карамазава

Багацце творчых індывідуальнасцей асабліва заўважаецца ў тым пакаленні празаікаў, якое яшчэ нядаўна лічылася сярэднім і зараз становіцца старэйшым. Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў, Віктар Карамазаў, Уладзімір Дамашэвіч, Анатоль Кудравец, Іван Чыгрынаў, Павел Місько, Барыс Сачанка, Мікола Гіль... Вядома ж, у гэтым шэрагу Міхась Стральцоў і Уладзімір Караткевіч, чые дарогі заўчасна абарваліся. Усе яны народжаныя тою, канца 50-х—пачатку 60-х гадоў «адлігаю», што асвяжыла маральны клімат грамадства і прынесла надзеі на дэмакратычнае абнаўленне жыцця.

Літаратура тады досыць аднадушна павярнулася да будняў, да побыту, да асабістых адносін людзей. І яшчэ — да жывога, незалітаратуранага, тутэйшага слова. Кожны са згаданых пісьменнікаў па-свойму развіваў гэты напрамак у нашай прозе. Напрыклад, вось Віктар Карамазаў.

Пра яго пісалі, здаецца, не так многа, як пра іншых. І шкада. Адзін з майстроў сённяшняй прозы, ён прынёс у літаратуру свой асаблівы духоўны свет. Пры ўсёй мастацкай блізкасці В. Карамазава да празаікаў яго пакалення — схільнасці паказваць штодзённую плынь жыцця, выпісваць рэчы і прадметы — творы яго прыкметна вылучаюцца паэтычнасцю бачання свету. Прычым паэтычнасць яго не эмацыянальна адкрытая, як у Янкі Брыля, не экспрэсіўна рамантычная, як ва Уладзіміра Караткевіча, а стрыманая, акварэльна мяккая, часцей сцішаная. Харастaво маладосці, жанчыны, прыроды, народнага характару паказваецца пераважна знутры, без аўтарскага эстэтычнага націску. Паэтычнае святло жыцця перадаецца найбольш тою маральнаю атмасфераю, якую чыняць звычайныя справы людзей. Хаця пісьменнік не цураецца, бывае, і пэўнай долі экспрэсіі, асабліва ў апісанні прыроды, дзе адчуваецца то паганскае смакаванне красы і сілы ўсяго жывога (раманы «Пушча», «Бежанцы»), то легендарна-казачнае ўяўленне пра бары і дубровы Палесся (нарыс «Векавое»).

Натуральна, што асоба такога мастака раскрываецца пэўным чынам у творах як асоба апавядальніка. Паказальныя ў гэтых адносінах нарысы В. Карамазава. Аўтар тут не толькі вядзе нязмушаную, шчырую гаворку з чытачом, даючы магчымасць падумаць над нейкімі з'явамі жыцця, маральна ацаніць іх. Апавядальнік часта паглыбляецца ў сябе і, па сутнасці, гаворыць ужо з самім сабою, вядзе ўнутраны маналог, запрашаючы нас саўдзельнічаць у таемных, запаветных для яго і важных для нас перажываннях. Вось у «Векавым» ён бачыць і чуе пару ранняй восені:

«Было шмат прастору і цішыні. Кожная жывая лісціна і галіна, кожнае дрэва, здавалася, кідалі сваю ўвагу ўжо не на сябе, як некалі ўвесну, а на штосьці больш-менш далёкае, на сваё акружэнне, усё жывое да нечага пільна прыглядалася, прыслухоўвалася, старалася зразумець іншую жывую істоту.

Гэты стан авалодваў і мною. Я таксама, як дрэва ці яго асобная галінка, як травіна ці лісціна, не спяшаўся ні рухацца, ні гаварыць, ні думаць, ні перажываць, быў у стане дзіўнай нетаропкасці і з радасцю адчуваў, як гэтая нетаропкасць яднае мяне з прастораю цвярозага восеньскага лесу, растварае маю душу ў вячыстай бярозавай сцішанасці».

Чытаючы гэта, прыгадваеш «Запіскі паляўнічага» І. Тургенева, якія таксама пісаліся як нарысы, і думаеш, што паэзія ў прозе — вельмі арганічная якасць літаратуры. Карамазаўскія нарысы народжаны, здаецца, прагаю нязнанага харaства (а, зрэшты, ці ёсць яно знанае, зведанае да канца?). Ён піша пра ткачых з вёскі Неглюбка і іх дзівосныя вырабы («Вясёлка сярод зімы»), пра самаадданых ахоўнікаў прыроднага багацця — леснікоў («Векавое»), пра Карэлію — край лясоў, азёр, эпічных песень-рун і моцных працавітых людзей, сярод якіх нямала земляк оў («Руны мараны»), урэшце пра Мадагаскар, Маўрыкій, Сейшэлы і іншыя легендарныя геаграфічнай аддаленасцю ад нас, экзатычным жыццём астравы («Глядзіце ў вочы лемуру»). Апошні нарыс — не зусім і нарыс, а паэма-быль, своеасаблівая песня душы, якая, дакрануўшыся да чужога, незнаёмага жыцця, адкрыла ў ім вельмі многа харaства. Невыпадкова жанр твора ў аўтарскім вызначэнні досыць расхістаны і вольны — «аповесць-эсэ з пастскрыптумам і вернісажамі». Такі накірунак не скоўвае аўтарскага самавыяўлення, схільнасці да лірызму, да маральных і эстэтычных споведзяў. Проза гэтая чытаецца проста з асалодаю, хаця паводле выкладу матэрыялу перад намі звычайны рэпартаж.

Нарысы В. Карамазава яшчэ — і падарожжы, у якіх заўсёды ёсць творчы пошук каштоўнасцей. Як прызнаецца аўтар у «Рунах мараны», пошук і вядзецца для таго, каб «паўней адчуць самае для сябе блізкае і самае дарагое, калі ў чужым па-новаму пачынаеш разумець і цаніць сваё кроўнае». Гэты пошук і прывёў В. Карамазава да вялікага беларускага мастака В. Бялыніцкага-Бірулі, блізкага аўтару не толькі зямляцкімі сувязямі, але і складам духоўнага жыцця, яго паэтычнай вышынёй. Кніга пра жывапісца — «Крыж на зямлі і поўня ў небе» — і працяг працы пісьменніка ў жанры нарыса, і разам з тым зусім іншая жанравая якасць, якую нялёгка вызначыць і якую аўтар акрэслівае як «эскізы, эцюды і споведзь Духу». Праўда, удакладняючы, абазначае твор і як «аповесць-эсэ» (ёсць жа ў нас вядомыя, прывычныя ўжо раманы-эсэ А. Лойкі). Менавіта споведзь, маналог-аповяд пра дарагое і запаветнае, чым жыве чалавек. Ды гэта не толькі споведзь персанажа — В. Бялыніцкага-Бірулі. Гучаць у творы галасы дзвюх блізкіх душ — героя і аўтара, жывапісца і мастака, улюбёных у прыроду, у красу неба і зямлі. Яны жывуць на адной эмацыянальнай хвалі. Таму пісьменніку ўдалося так хораша перадаць шматграннасць і глыбіню асобы мастака, адчуць музычны тон, унікальны каларыт яго пейзажаў.

Свет усякага мастака раскрываецца найперш праз жыццё ягоных герояў. Любімыя героі В. Карамазава нясуць у сабе многае ад яго асобы. Яны адметныя тым, што ўражваюць не ўнутранаю сілаю ці здольнасцямі, не энергіяй барацьбы, хаця па-свойму і моцныя, і ўнутрана багатыя. Яны досыць звычайныя і кранаюць нейкаю асаблівaю культураю, прыроджанаю душэўнаю развітасцю, далікатнасцю. Яны самаадданыя ў сваёй жыццядзейнасці, у старанні чыніць дабро, але не любяць навязваць сваю волю. Яны паслядоўныя і стойкія ў сваёй чалавечнасці, ды безабаронныя перад злом, як безабаронная духоўнасць перад бездухоўнасцю. І лёс іх часцей драматычны. Колькі чалавечай абаяльнасці, някідкага, скрытага харaства ў такім карамазаўскім героі, які ўспрымаецца як своеасаблівы знак беларускага народнага характару ці, прынамсі, нейкая частка яго.

Гэта стары Курбака з яго няўцешным смуткам па ўнуках, якіх ён гадаваў і даглядаў, нібы маці, і якіх цяпер не можа бачыць, бо сям'я сына распалася («Дзед»); малы Сярожка з леснічоўкі са спагадлівай, чулай душой, з яго здольнасцю хіліцца да ўсяго жывога і ўсё ў прыродзе любіць і шкадаваць («Прылипала»); разважлівы сялянскі хлопец Сцёпка, што не асіліў нялюбай вучобы ў інстытуце і цяпер гаспадарыць на вёсцы, тайна цешачыся трываласцю свайго жыццёвага становішча («Жаваранак»); адзінокая кабета, якая ўсё жыццё кагосьці ратавала ды ахоўвала, якая і цяпер, на старасці застаецца апораю людзей у сваёй маленькай «неперспектыўнай» вёсцы («Галуба»); малады спецыяліст Генка, добры і шчыры, што беражэ ў сэрцы цёплыя пачуцці да родных мясцін і людзей («Бярозавыя венікі»); шафёр-выпрабавальнік Пракопчык, які любіць сваю працу і цягне яе нялёгкую ношу, стараючыся ва ўсім трымацца законаў сумлення («Спіраль»); настаўнік Захар Падабед, чалавек шырокага кругагляду, здольны самастойна ацэньваць перажытае («Бежанцы»).

Гэтыя героі з розных твораў пісьменніка — пералік іх можна было б доўжыць — прэтэндуюць на абагульненне, складаюць, так бы мовіць, літаратурнае амплуа В. Карамазава.

Бытуе ісціна, што сапраўдны мастак усё жыццё піша адно і тое ж — выказвае самога сябе. Пры ўсёй парадаксальнасці ісціна гэтая ўсё ж слушная: мастак бачыць жыццё праз уласнае «я». Вядома ж, яны розныя, бо «амплуа» таленавітага творцы не бывае вузкім. Але і ўцячы ад яго мастак не можа ды, напэўна, і не хоча. Нам, чытачам, цікава адкрываць для сябе ўсё новыя грані мастакоўскай асобы, глыбей уваходзіць у яго свет праз свет ягоных герояў.

У 1988 г. выйшла «Выбранае» В. Карамазава, якое склалі раман «Пушча», аповесці «Пагоннік», «Дзень Барыса і Глеба» і апавяданне «Дзяльба кабанчыка», што дало назву зборніку. Да гэтых твораў варта больш прыглядзецца: «выбранае», якое складаецца аўтарам, нясе ў сабе асабліва моцную выяву яго духу. Што ж у творах выразна карамазаўскае?

Вось Юлька з ранняй аповесці «Пагоннік», спагадлівая да людзей, цярплівая і журботная ў сваім шматгадовым чаканні мужа-гулякі, які з'ехаў на поўнач дзеля

# ШТО РАБІЦЬ ПАЭЗІІ?

Гэта пытанне прагучала на **сумесным пасяджэнні секцый паэзіі і крытыкі СП БССР,** дзе гаворка вялася пра паэтычны набытак мінулага года. Зрэшты, год для літаратуры — не вялікі часавы прамежак, і таму, натуральна, ім не абмяжоўваліся.

«Любімая дачка паэзіі — лірыка» (А. Звонак) сёння адчувае сябе досыць няўпэўнена. Рэй вядзе новая кан'юнктура, якая мяняе плюс на мінус і зноў дэкларуе толькі тое, што дазволена (Т. Чабан, А. Пісьмянкоў). Паэтку, якую сёння ўзвышана называюць апосталкай, у свой час ( і не такі далёкі!) не было каму праўвесці ў апошні шлях, нагадала Р. Баравікова. Пакутніцкі лёс, перажытае ў гады культу не застрахоўваюць творцаў ад няўдач, ад слабых вершаў і радкоў, лічыць Р. Тармола. Ці трэба нас дзяліць на «чыстых і нячыстых», дзе першыя — прыхільнікі «чыстага мастацтва», а астатнія — усе тыя, каму баляць грамадскія праблемы? На погляд М. Арочкі, нараджаецца новая бяда, новая крайнасць — паэзія **безадноснасці.** Перад сучаснай паэзіяй, у адрозненне ад класічнай, сказаў У. Конан, стаіць новая задача — імкненне да экзістэнцыі. Галоўнае не тэма і не абстрактная ідэя, а прарыў да існасці. Самае горшае — гэта імітацыя быцця.

Размова то сягала ў філасофскія вышыні, то вярталася да нашай грэшнай зямлі, да сённяшняга сацыяльна напружанага дня. У прыватнасці, пра няўхіль-

заробкаў. Няспынныя трывогі, кволае спадзяванне на звычайнае жаночае шчасце ды людскія перамовы не спрыялі духоўнай раўнавазе, і ўсё ж чыстаю і светлаю зберагла сваю душу Юлька, якая хоча шчырасці, даверу, суладнасці паміж людзьмі. «Не чуеш ты маю душу»,— папракае яна ў кароткую хвіліну крыўды Ягора Кавалька, якога жыццё прыгарнула да Юлькі. У гэтым патрабаванні-просьбе — чуць душу — крыецца, здаецца, гуманістычны пачатак маральна-этычнай і эстэтычнай канцэпцыі пісьменніка.

Не ва ўсім псіхалагічна выверапы адносіны Ягора і Юлькі ў гэтым раннім творы В. Карамазава. Але верыш пісьменніку там, дзе ён прыкмячае няўлоўна высокія рухі душы герояў. Вось яна плыве разам з ім на плыце ў далёкі райцэнтр і па-жаночы гаспадарліва ўжо клапоціцца аб ім, а Ягор зноў і зноў сыходзіць на бераг, каб пабыць аднаму, суняць хваляванне і знайсці нейкую пэўную лінію паводзін у гэтай сітуацыі. Не можа не ацаніць чытач душэўнага такту не надта маладога Ягора. Ён нават самому сабе не можа прызнацца, якой дарагой стала для яго жанчына.

Характэрна, што пісьменнік змяніў першапачатковы, часопісны тэкст, у прыватнасці, зняў падрабязнасці гібелі гераіні і такім чынам пашкадаваў яе, так вартую шкадавання (ды і чытача). Напэўна, гэты момант гаворыць штосьці істотнае пра творчую манеру В. Карамазава, не схільнага да рэзкага, жорсткага рэалістычнага пісьма.

Працягам згаданай лініі ў рамане «Пушча» выглядаюць адносіны Насці і Валошкі. Праз увесь твор праходзяць гэтыя героі побач, сустракаюцца ці шукаюць сустрэч, мала размаўляюць — і ўсё не пра галоўнае, што ляжыць на сэрцы, грэюцца думкамі адно аб адным, гэтыя адзінокія, сталага веку людзі. Нават часам робяць смелы крок да збліжэння, але так і не пераступаюць ніколі мяжу маральна дазволенага. Нарэшце Насця ад'язджае з роднай Лісані ў свет з нахабнаватым і непаседлівым Міцькам Курнопам. Здавалася б, няма тут добра вытрыманай псіхалагічнай логікі, а, значыць, і праўды жыцця. Але для пісьменніка важная логіка менавіта гэтых, не стэрэатыпных характараў, якія жывуць паводле сваіх законаў.

Такія героі В. Карамазава—паэты ў глыбіні сваёй натуры. Той жа Ягор у «Пагонніку», звычайны лесапільшчык, плытнік, мае рукі і сэрца мастака — так хораша выразае з дрэва розныя фігуры, умее знаходзіць у лесе сапраўдныя прыродныя творы. І Валошка шануе лес не проста як спецыяліст. Для яго прырода — частка красы жыцця, якою трэба любавацца, нават пакланяцца ёй. У спрэчцы з пагарэльцам, што хоча спілаваць сабе найлепшыя дрэвы, ляснічы параўноўвае пушчу з царквою. І Насця ў рамане В. Карамазава пры ўсёй яе калючасці, насмешлівасці, дэманстратыўнай незалежнасці — натура чулая і паэтычная. Таму так прагне яна ў жыцці духоўнай роднасці, так цягнецца да старога Гароха, сардэчнага і дзівакаватага, хіліцца да Валошкі, вылучае Андрэя («Проста душа мне твая прыглянулася. Чыстая яна ў цябе, як незамутнёнае шкельца».)

Вобраз пушчы эстэтычна рухомы і ўвесь час сумяшчае два планы — звычайны, звязаны са штодзённымі гаспадарчымі клопатамі чалавека, і ўзвышаны, звязаны з адчуваннем адвечнай моцы і красы жыцця, роднай зямлі. Нават у пейзажных малюнках, скупых, мімалётных аўтарскіх накідах прыроды заўважаецца гэтае спалучэнне практычна-бытавога і паэтычна высокага бачання жыцця пушчы.

«Барвянае вогнішча датлявала на зубчастым грэбені пушчы, яго святло гасла ў залітых вадою калюгах і каляінах, на блішчаста мокрых снягах і дрэвах, у высокім небе і на сабачых вушах, калі Валошка падыходзіў да Лісані». «Насустрач беглі рабыя, нібы цялушкі, бярозы ў прысадах». «Высознае неба густа абсыпалася зорамі. Нібы вясновая ралля насеннем».

Такое светаадчуванне дыктуецца і асобаю аўтара, яго набліжанасцю да героя, гаспадара і творцы на сваёй зямлі.

Але ёсць і іншыя персанажы ў рамане — дырэктар лясгаса Васіль Зімавец, ляснік Рысеў, той жа селянін-пагарэлец, адносіны якіх да пушчы, гэтага цэнтра вялікага жыцця не проста утылітарныя, а спажывецкія, нават драпежніцкія. Таму няма ў творы паяднання паэтычных і празаічных пачаткаў жыцця, няма адчування яго гарманічнасці. Драматычныя сутыкненні зла і дабра праходзяць і праз жывое цела пушчы, і праз чалавечыя душы, пакідаючы цяжкія і балючыя страты. Вобраз гэтага драматычнага разлому жыцця і гэтых журботных людскіх страт — Лесік Мураўка — постаць не столькі псіхалагічна канкрэтная, колькі ўмоўная, па сутнасці, карамазаўскае паэтычнае іншасказанне. Душэўна хворы (з часоў вайны), самотны жыхар Лісані, а больш жыхар пушчы, што палохае сваім крыкам па начах, Лесік верыць, што там, у паднябессі ёсць другая яго частка — птушка і кліча яе, сумуе па ёй, пакутуе ад немагчымасці злучыцца з ёю. Зрэдку паяўляецца ў творы гэты дзіўны персанаж, знак бяды і надзеі, зноў і зноў напамінаючы пра жорсткасць, бесчалавечнасць жыцця і будзячы адначасна адвечную чалавечую прагу хараства і вышыні.

Лінія чыстай душы, што настойліва шукае водгуку, ды так і застаецца неспатоленаю ў суровай нашай рэчаіснасці, працягваецца ў аповесці «Дзень Барыса і Глеба». Спустошаным чалавекам, хаця з самаўпэўненасцю, нават форсам бывалага гараджаніна кінаадміністратар Цімафей Мурашка трапляе ў родную вёску, куды не заглядаў трыццаць гадоў. І тут зведвае такую шчырую ўвагу да свае асобы, такую цеплыню і душэўную шчодрасць людзей, што ў ім ажывае колішні хлапчук Ціма, даўно, здавалася б, загублены эгаістычным, бездухоўным ладам жыцця. Вялікую сілу чалавечнасці, скрытага хараства нясе ў сабе Бацькаўшчына з яе народнымі маральна-этычнымі законамі і мудрым голасам чалавечага роду — сцвярджае пісьменнік. Усё тут вяртае «блуднага сына» да яго вытокаў, да чысціні дзяцінства, да тых чалавечных і наіўных пачуццяў, што складаюць у кантэксце твора высокую каштоўнасць жыцця.

Ёсць яшчэ ў аповесці дзед Акім, які лечыць людзей травамі, ён гадаваў малогаЦіму. Зараз дзед Акім — хавальнік роду, хлебароб, ратавальнік людзей ад хвароб і няшчасцяў — памірае, аддаючы сталаму ўнуку апошнія промні свае душы. Спакойна і годна пакідае ён гэты свет у дзень Барыса і Глеба і нібы становіцца з імі, святымі, у адзін паэтычны рад.

Ачышчэнне пакалечанай душы Цімафея-Князя і «ўзнясенне» вясковага патрыярха дзеда Акіма маюць, вядома, у творы пэўную мастацкую зададзенасць. Але яна — арганічная якасць паэтычнай эстэтыкі, дзе аўтарскія арыенціры моцна выяўленыя, выразна накладваюцца на рэчаіснасць і нават «падпарадкоўваюць» яе сабе.

Разам з тым у творах В. Карамазава моцныя «нізкія» пласты жыцця, тым больш, што пісьменнік вельмі дакладна акрэслівае воблік людзей, якія сваім жорсткім прагматызмам нішчаць дабро і хараство. Аднак пра што бы ні пісаў В. Карамазаў, ён умее адчуць святло народнага характару, заўважыць высакароднае ў самых звычайных, гаспадарча-бытавых праявах жыцця чалавека працы. У досыць традыцыйным — паводле тэмы, сюжэту — апавяданні «Дзяльба кабанчыка» ёсць гэтая праніклівасць, тонкая чуйнасць пісьменніка.

Цяпер перафразірую М. Памялоўскага, канцоўку яго рамана «Мяшчанскае шчасце»... «А дзе ж партрэт?» — спытае дасведчаны чытач. Мы ж яму адкажам: «А партрэт наперадзе, ён заўсёды наперадзе, чытач». Тут быў толькі подступ, спроба. В. Карамазаў — у пары творчага росквіту. І многія істотныя штрыхі, дэталі яго аблічча дапішуць жыццё, новыя творы пісьменніка.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ.**

г. Гродна.

---

**нае падзенне тыражоў нашых кніг гаварыў А. Камароўскі.**

**Паколькі пасяджэнне сумеснае (а такія становяцца традыцыяй), то ўдзельнікі не абмінулі ўвагай і сучаснай крытыкі. Былі закіды ў яе адрас з боку Р. Баравіковай, Р. Тармолы, В. Аколавай, Л. Галубовіча, пасля чаго старшыня секцыі крытыкі Д. Бугаёў прыйшоў да высновы, што не толькі крытыкі дрэнна чытаюць паэтаў, але і паэты — крытыкаў. А. Сямёнава падкрэсліла, як няпроста пісаць пра тонкую паэтычную матэрыю, і сцвердзіла права кожнага крытыка на суб'ектыўнасць.**

**Шмат прагучала і канкрэтных імён. У станоўчым кантэксце згадваліся новыя творы М. Танка, К. Цвіркі, Я. Сіпакова, В. Жуковіча, П. Макаля, Ю. Свіркі, М. Кусянкова, М. Мятліцкага, Л. Рублеўскай, В. Куртаніч, А. Сыса, іншых. Узнікалі спрэчкі вакол новых паэтычных кніг А. Разанава і А. Наўроцкага.**

**НАШ. КАР.**

●

Паведамляем чытачам, што даклад Алеся БЕЛЬСКАГА, які прагучаў на пасяджэнні і выклікаў неадназначную рэакцыю, «ЛіМ» надрукуе ў бліжэйшы час.

---

**ЧАСОПІСЫ: СТУДЗЕНЬСКІЯ НУМАРЫ**

# ПРА СУПЯРЭЧЛІВЫ ЧАС І ПРА НАС...

Для пачатку — адна цікавая акалічнасць: аказваецца, ужо і нашы выданні пачынаюць «спаборнічаць» між сабой, імкнучыся як мага хутчэй прапанаваць чытачу найбольш цікавыя матэрыялы.

З задавальненнем працягваеш знаёмства ў «Маладосці» з творчасцю В. Ластоўскага (прадмова і пасляслоўе Я. Лецкі). Першыя яго публікацыі пасля дзесяцігоддзяў замоўчвання (зноў адкрыў яго імя «ЛіМ», дзякуючы Б. Сачанку) пераканалі, наколькі гэта самабытны, з боскім дарам таленту пісьменнік. Нарыс «Уражанні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку» і аповесць «Лабірынты», прапанаваныя «Маладосцю», таксама даюць падставы гаварыць пра В. Ластоўскага, як пра творцу з глыбокай нацыянальнай свядомасцю і неадольным жаданнем рабіць усё для таго, каб свядомасць гэтая развівалася ў кожнага беларуса. Гэтым шчымлівым адраджэнцкім духам прасякнута аповесць «Лабірынты», у якой паяднана мінулае і сучаснае, рэальнае і фантастычнае дзеля таго, каб лепей спасцігнуць дыялектычную повязь часоў, адчуць, якая багатая і вялікая ў нас гісторыя.

«Лабірынты» прапануе чытачам, паўтараем, першы нумар сёлетняй «Маладосці», а часопіс «Спадчына» публікаваў аповесць яшчэ летась. Тое ж самае трэба сказаць і пра дакументальную аповесць Ф. Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ», што змешчана ў першай кніжцы «Полымя» (уступнае слова і публікацыя А. Змітровіча). Але ж менавіта гэтая кніга, якая з 1935 па 1937 год выйшла ў перакладзе ажно на сямі мовах свету, з нумара ў нумар публікуецца на старонках «Народнай газеты».

Канечне ж, не дзеля папроку гэта гаворыцца. Добра, што гэтыя творы нарэшце друкуюцца, і будзем спадзявацца, што ў далейшым падобных публікацый паболее, бо нам яшчэ адкрываць і адкрываць забытае, варушыць і варушыць пакрытыя пылам часу пласты літаратуры.

**Увогуле ж, першыя нумары літаратурна-мастацкіх часопісаў, так сказаць, на вышыні. У «Полымі» прыцягне ўвагу новы раман І. Шамякіна «Злая зорка». Змешчаны толькі пачатак твора, але і ён дае падставы гаварыць, што рэч гэта сур'ёзная, вынік аператыўнага мастацкага рэагавання І. Шамякіна на падзеі, што адгукнуліся і яшчэ доўга будуць адгукацца ў лёсах мільёнаў людзей. У першую чаргу — гэта чарнобыльская трагедыя, але поруч і вайна ў Афганістане. Як і ў сваіх папярэдніх раманах, пісьменнік псіхалагічна глыбока выпісвае характары персанажаў, дынамічна будуе дзеянне, выходзіць на праблемы агульначалавечнага гучання.**

Дзве новыя публікацыі прапанаваў Р. Барадулін. У «Полымі» — паэму смутку «Удакладненні да асабовага лістка па ўліку партызанскіх атрадаў», у «Маладосці» — вершы. Паэма — свайго роду штрыхі да партрэта бацькі паэта, тут шмат асабістага, але ён не зводзіць гаворку да чагосьці прыватнага, адзінкавага. І на гэты раз паэт піша з думкай пра народ, пра яго нялёгкую долю на сіберных паўстанках гісторыі. Не абмінуў Р. Барадулін і тых часін, калі «падазронасці воз, на якім ехаў перапуджаны лёс, не падскокваў на брукаванцы ўлегцы»; не прайшла міма яго позірку і мінулая вайна. У цэнтры гэтых падзей — сейбіт на хлебаробскай ніве і ратай на полі вайны Іван Рыгоравіч Барадулін. Нямногія з іх абышлі яго бокам, лёс самога народа і канкрэтнага яго прадстаўніка ўзаемазвязаны.

Каб чытач меў уяўленне аб новых вершах Р. Барадуліна, дастаткова працытаваць радкі з «Яблыні». Гэты верш у нізцы на самым пачатку, з яго, можна сказаць, вырастаюць задумкі і іншых твораў, найперш «Ушацкай кнігаўцы», «Сельскія інтэлігенты», «Лявон Баразна», «Яблыня» — боль сэрца і пакуты сумлення ад таго, што роднай старонцы па-ранейшаму няўтульна на планеце, мулка на дарогах веку:

**На нажах скразнякоў
азяблая,
Змоўклая ў крывавай
расе,
Беларусь —
Адзічэлая яблыня,
Хто ні едзе — цябе трасе.**

**Карані твае лезуць
з пекла ўсе,
Чужакі паламалі сукі.
У куродыме завязь
спеклася,
Долу валяцца гарчакі.**

Трываласць народнай маралі, нацыянальных каранёў залежыць ад таго, наколькі кожны з нас усвядоміць сябе беларусам, будзе адчуваць сябе часцінкай народа, нацыі. На сённяшні дзень гэта лёсавызначальныя моманты, вузлавыя пытанні і іх не мінаюць паэты. У той ці іншай ступені гучаць яны і ў падборках М. Дуксы, Х. Гурыновіча («Полымя»), М. Аўрамчыка, А. Лойкі («Маладосць»). Новую падсветку набылі і традыцыйныя матывы — апяванне роднай прыроды, туга па вёсцы... Па-свойму хораша сказаў пра сучасную вёску дэбютант «Маладосці» І. Сідарук: «Зацішак. Восень. Лёгкі змрок. Бабуля-вёска горбіць плечы. Іржавы на хляве замок маркотна гладзіць шэры вечар...»

Раю ўзяцца за чытанне аповесці П. Прудніка ва «Пекла» і дэтэктыўнай аповесці А. Усені «Афсайд» (абедзве ў «Маладосці»). П. Пруднікаў вяртаецца ў перажытае ў гады сталінізму. А. Усеня, які раней выступаў як паэт, аказваецца, валодае законамі і іншага жанру: ёсць у аповесці інтрыга, той адзіны момант, на якім трымаецца ўсё дзеянне. Ухвальна, што і мова неблагая, пазбаўленая літаратурных штампаў.

Здавалася б, літаратуразнаўчыя, крытычныя публікацыі разлічаны ў асноўным на вузкае чытацкае кола. Хаця — як сказаць. Артыкул А. Лойкі ў «Полымі» — «Перыядызацыя — гэта сур'ёзна» — зацікавіць многіх аматараў роднай літаратуры, бо за пытаннямі, у нечым спецыфічнымі, — праблемы самога дня. Як пазбавіцца ад схематызму пры напісанні гісторыі літаратуры? Што зрабіць, каб асобныя пісьменніцкія імёны і кнігі не падганяліся пад пэўныя перыяды? Над гэтым і разважае А. Лойка з уласцівай яму аб'ектыўнасцю, аргументаванасцю і... пэўнай палемічнасцю.

**Афіцыйнае вызначэнне рангу — «навукова-метадычны часопіс Міністэрства народнай адукацыі БССР» — гатова адштурхнуць чытачоў (не выкладчыкаў) ад «Беларускай мовы і літаратуры ў школе», але той, хто ўжо чацвёрты год бярэ яго ў рукі, добра ведае: змест часопіса значна шырэйшы за яго назву. З нумара ў нумар настойліва сцвярджаецца ідэя нацыянальнага Адраджэння, прапагандуецца ўсё лепшае не толькі ў беларускай літаратуры, але і мастацтве, культуры. Не выключэнне і першы нумар. Да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча часопіс мяркуе апублікаваць шэраг матэрыялаў. Адзін з першых крокаў у гэтым кірунку — артыкул самога паэта «Голас з Беларусі», напісаны, як вядома, аўтарам па-руску. Надзвычай актуальныя развагі Максіма-Кніжніка: «...устраняя белорусскую речь из школы, мы ведем к растрате результатов громадной, многовековой духовной работы целого народа, сбиваем мысль ребенка з привычных психологических тропинок и грубо урезываем его душевный мир, вводя же речь великорусскую, мы ставим на его пути ряд затруднений, заселяем его психику образами мертвенными, неясными и во многих случаях совершенно нелепыми. При таких условиях пользоваться великорусской речью вместо белорусской можно лишь в ущерб ребенку, что в особенности можно сказать о первоначальных ступенях обучения».**

**З гэтага ж нумара «Беларуская мова і літаратура...» пачынае друкаваць і песні, якія, цытую, «павінны гучаць на вечарынках, фэстах, сустрэчах і т. п.» Першая «візітка» — «Люблю наш край» К. Буйло.**

Спажытак для душы, як заўсёды, ёсць і ў «Беларусі». Змястоўным атрымаўся «Нёман», які, на жаль, спазніўся — літаральна тыдзень назад прыйшоў да чытача. На адным дыханні чытаецца аповесць А. Карпюка «Рэквіем» (пераклад Г. Папова), што была падрыхтавана да друку яшчэ ў ..1980 годзе. Але, як канстатуе часопіс, «тады па прычынах, якія ад рэдакцыі не залежаць, свету не пабачыла». Баімося праўды мы, баімося... І пра нядаўняе мінулае і пра вайну мінулую...

Палемічны ў артыкуле «Адкуль дзьмуць непамятлівыя ветры?» В. Каваленка...

Запазніліся да чытача і «Полымя», і «Маладосць». Сапраўды, шмат у беларускага друку перашкод. Меншыя, чым летась, тыражы, а да ўсяго — і спазненні.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**А дагэтуль — пад соснамі Райніса**
**І пад песні бурштынавых хваль —**
**Мы хадзілі штовечар і раніцы,**
**Ды пара расставацца, на жаль.**

**Бы напятыя струны міжволі,**
**Што кранулі мы поціскам рук,**
**Адазваліся мне Краснаполлем,**
**А табе — Чэбаксарамі, друг.**

**Зноў дарога бясконцая кліча...**
**Я чакаю ўсё ліст ад цябе.**
**Адкажы, калі ласка мне, Піччэ,***
**На якім ты прыпынку цяпер!**

---

* Піччэ — старэйшы брат.

●

**Сівы, ды яшчэ старасць не сагнула.**
**На Волгу ветэрана пацягнула.**

**І верны абавязку ён вярнуўся**
**На гэты бераг з брацкай Беларусі.**

**Па вуліцы прыгожай і шырокай**
**Ідзе з ракой сустрэцца сінявокай.**

**Прыгадвае, дзе што тады стаяла,**
**Калі вайной яго сюды прыгнала.**

**Да гэтай школы сівернай зімою,**
**Дзе быў шпіталь грымотнаю парою.**

**Цікава ўсё бываламу салдату.**
**Зайшоў у клас — у восьмую палату.**

**Урок ідзе. Пануе ў класе ціша,**
**Галоўкі схіленыя. Шалясценне кніжак...**

**Змахнуў слязу. Крануў над Волгай вецце:**
**«Мы тут тады схапіліся са смерцю!»**

## РАДКІ МАЕ...

**Радкі мае,**
**Хачу, каб расцвіталі**
**Вярбою, дзе пупышка — як пчала.**
**Каб людзі вас, як дзень вясны, чакалі,**
**Каб, нібы мак, душа у іх цвіла.**

**Радкі мае,**
**Як збажына на ніве,**
**Расціце, каласіцеся заўжды,**
**Каб акрыляўся хлебароб руплівы,**
**Каб жыў надзеяй светлай праз гады.**

**Радкі мае,**
**Вы трэллю салаўінай**
**Страчайце у дарозе ўсіх людзей,**
**Каб іх не запынялі каляіны,**
**Каб з песняй ім ісці было лягчэй.**

**Радкі мае,**
**Душою не крывіце,**
**Звініце гуслямі. А ў цяжкі час**
**Не мітусіцеся і не крычыце,**
**Каб не назвалі пустамелем вас.**

Пераклаў Юрась СВІРКА.

## ЧОРНЫ «ШАЎРАЛЕ»

*Беларускаму сябру*

**Даўні звычай чувашскі трывалы**
**І па сённяшні дзень, як заўжды:**
**Неаспрэчны загад аксакалаў —**
**Абавязак і доўг маладых.**

**Тут, дзе, дружа, гулялі з табою**
**Па алеях маіх Чэбаксар,**
**Загарэўся я думкай адною,**
**Бы калісьці світанкамі мар:**

**Вось бы тут, ад Казанскага боку,**
**Падкаціў бы сюды «Шаўрале»**
**І спыніўся б зусім недалёка,**
**Можа, нават насупраць мяне.**

**Адчыніўшы бліскучыя дзверы,**
**Мне сказаў бы Купала тады:**
**«Разбудзі-ка, сынок мой, Эльгера,**
**Пазаві майго сябра сюды».**

**І, не чуючы ног пад сабою,**
**Я б ураз да Эльгера памчаў:**
**Дамінікавіч мовіў са мною —**
**Па-чувашску, як брат, размаўляў.**

**Паляцеў бы нястрымна, бясконца,**
**Быццам птушка на шоўк сінявы,**
**Каб праменьчык — ад сэрца і сонца —**
**Да Эльгера данесці жывым.**

**Знаю: ён — праз груваcткія хмары —**
**Кліч Купалы пачуе ў імгле,**
**Адгукнецца, абы ў Чэбаксары**
**Укаціўся бы зноў «Шаўрале».**

Пераклаў Віктар ХАЎРАТОВІЧ.

---

«Шаўрале» — марка асабістай легкавушкі Янкі Купалы, на якой ён у 1941 годзе, праязджаючы праз Чэбаксары, спыніўся на 2 тыдні ў свайго сябра народнага паэта Чувашыі Сямёна Васільевіча Эльгера (1894—1966).




Тут, на рабоце, я ціхенька і пашаноўна дзякаваў бацьку, што ён з малых гадоў прывучыў мяне ўмець усё рабіць. Цяслярская работа была мне па душы, мабыць, таму, што я знаў яе з дому.

Позна ўвечары ў барак прыносілі вячэру. І зробленыя пайкі хлеба. У гэты ж час да мяне прыходзіў Змітрок Астапенка. Худы, знясілены. Яго пасялілі недзе ў другім месцы, бо на работу ён не выходзіў. Пайка хлеба ў яго была невялікая, штрафная. Ён залазіў да мяне на нары, і я чым мог дзяліўся з ім. І баландою, і маленькаю рыбкаю, і драбком цукру. Я ведаў яго натуру і, здаецца, здагадваўся, што ён нездарма, не ўмеючы ніякай фізічнай работы, захацеў зрабіць высадку на гэтай станцыі.

Аднак жа доўга мне тут быць не давялося. Аднае раніцы нашу брыгаду пасадзілі на дзве грузавыя аўтамашыны, прыкрылі зверху ад марозу брызентам і завезлі ў Іваньскі лагер. (У якім, дарэчы, праз многа гадоў пасля я сустрэўся з вядомым венгерскім рэвалюцыйным дзеячам Бэла Кунам і з жонкаю Мікалая Бухарына Ганнаю Ларынаю). Там жа, у Іваньскім лагеры, я і прабыў увесь свой прысуд да канца. І сцвярджаю: толькі таму, што адбываў яго на адным месцы — астаўся жывы. Калі ж праз дзевятнаццаць гадоў нашу групу нарэшце апраўдалі, то з дванаццаці чалавек вярнуліся толькі чацвёра. Загінулі пераважна тыя, хто трапляў у частыя і далёкія этапы.

Узнікла і загадка: два чалавекі ў рэабілітацыю не папалі — Змітрок Астапенка і Сяргей Знаёмы. Меркаванне было толькі адно: што яны ўцяклі.

Але гэтае меркаванне не спраўдзілася. Калі мы, апраўданыя, ужо былі дома, сярод пісьменнікаў, асабліва тых, што часта бывалі ў Маскве па службе, не раз гаварылася, што яны там бачыліся з Астапенкам. Лепш кажучы, ён з імі бачыўся. Гаварылася, што ён напісаў новую нізку вершаў, нават паэму, і меў клопат, каб іх выдаць у Мінску.

А ў даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», выдадзеным у 1981 годзе, напісана нешта нечаканае: што Астапенка ў часе вайны служыў у Савецкай Арміі, быў на фронце. Вось якія дзівосы рабіліся з Астапенкам. А чуткі, што хадзілі за ім, былі яшчэ больш легендарныя: што ён загінуў не дома, не на сваім фронце, а ў Чэхаславакіі, перакінуўшыся туды і разам з чэхаславакамі абараняючы іх рэспубліку ад нямецкай навалы.

Але давайце вернемся назад. У Іваньскі лагер, куды нас прывезлі. На першым часе мы нічога там не ўбачылі, апроч невысокага збудавання з саламяных матаў, над якімі падымалася пара. Аказалася, што гэта астрожніцкая лазня. Я не ведаў, што ў такой спарудзе, зусім адкрытай, нават без даху, а проста злёгку прыкрытай толем, можна мыцца сібірскай зімою. Тут у праходах стаялі катлы з гарачаю вадою. Мы абліваліся ёю, сцёбалі сябе венікам, каб хутчэй управіцца, але аказалася, што наш адзевак забраны ў пражарку, каб вытруціць з яго паразітаў, і міжволі мы завіхаліся і далей.

Потым нас, вядома, з канвоем і з сабакамі, павялі ў барак, таксама спараруджаны са збітай саломы, абшытай з абодвух бакоў дошкамі. Пры варотах, блізка перад першаю канвойнаю вышкаю, стаяў даволі шырокі клазет. Таксама каб быў на воку. У бараку днявальны нам паказаў, дзе ёсць незанятыя месцы, і мы сталі жыхарамі новага жытла, чакаючы вечара, каб пазнацца з тутэйшымі жыхарамі.

Іваньскі лагер быў, па сутнасці, сельскаю гаспадаркаю: рабіў зерне. Яго лагпункты на тэрыторыі былі размешчаны даволі ўдала: кожны ў самым цэнтры свае тэрыторыі. Толькі першы лагпункт, як камандны, выглядаў бязладна, анархічна. З тае прычыны, што эшалоны са зняволенымі ісці ў Сібір не пераставалі, а яшчэ большалі, першы лагпункт трэба было карэнным чынам і пашыраць і дасканаліць. Найперш патрэбен быў асобны, свой, гарадок для вольнанайманых. І патрэбна была бальніца. А каб зняволеныя не надта кідаліся ў вочы, іхнюю зону трэба было вынесці ў поле, зрабіўшы там свой умацаваны гарадок па ўсіх правілах патрэбнай строгасці.

На гэтым свежым аб'екце і пачалася наша работа. Была самая пара зімы. Нас, чалавек сорак, вывелі з ламамі, кіркамі і рыдлёўкамі. У белым полі свістаў вецер, падымаючы снежную замець. Калі вецер сціхаў і замець спадала, у далечыні ў нізіне, недзе на краі гэтага свету відны былі абрысы хат вёскі Івань. Зусім другі, ад нас аддзелены вольны свет.

Мы будавалі зямлянкі. Намечана іх было тры. Рабілася гэта вельмі проста: адны ламамі і кіркамі дзяўбалі зямлю, другія рыдлёўкамі выкідалі яе наверх, а трэція тачкамі адвозілі ўбок.

Не буду я апісваць, што такое лагерны барак ці зямлянка; што каб іх спарудзіць, патрэбен і лес, і дошкі, і нейкая нават тонкае ўмельства.

На зямлянках гэтых мы праваждаліся да вясны. Былі і хваробы, і абмарожванні, і паміранні. На рабоце ў нас увесь дзень гарэла вогнішча, і мы, як хто мог, выбіраў часіну і спосаб, каб пабыць у яго цяпле і дыме ці хоць пагрэць рукі. Мы, цесляры, неўзабаве перайшлі на сваю работу. Брыгадзір наш, Прахор Тарасаў, быў чалавек талкавіты, душэўны, са Смаленска, мы з ім адразу паразумеліся на тым, што я адмовіўся памагаць яму ў яго брыгадзірскай бухгалтэрыі.

— А мне падумалася, што табе, як чалавеку граматнаму, гэта будзе па душы.

— Не, — сказаў я, — баюся, што адразу залічаць мяне ў прыдуркі ці ў падхалімы.

Тарасаў засмяяўся.

— А ведаеш, — сказаў ён. — От ты не хочаш памагаць мне, а мне гэта падабаецца. А хто ж ты такі будзеш? Чалавек, бачу, граматны. Нечым жа добрым займаўся?

Мне было цяжка сказаць яму, хто я. Асабліва пасля таго, як убачыў, што наўрад ці выберуся адсюль, ці буду нават жывы. Але падумаў: нашто ж таіцца, што хацеў быць пісьменнікам.

Тарасаў, як часаў бервяно, так і разагнуўся над ім, пакінуўшы сякеру ў дзераве. Пастаяў, паглядзеў на мяне, уздыхнуў, мабыць, не ведаючы, што сказаць.

— І ў нас жа, у Смаленску, свае паэты растуць, — нарэшце сказаў ён. — Твардоўскі Аляксандр ды Мікалай Рыленкаў. Здаецца, іх не пачапалі... А пра цябе, чалавеча, не чуў.

— Як жа пачуеце, калі я пісаў па-беларуску.

— А-а, гэта праўда. Але і ў нас жа пад Красным ці пад Манастыршчынаю гавораць, бадай што, па-вашаму.

Чамусьці гэта мне было вельмі прыемна слухаць. Я ўспамінаў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, у тайне душы ўсцяшаючыся хоць мінулым.

На аб'екце нашым выхад з зоны быў шырокі, бо ездзілі тут і падводы, і машыны. І вось аднаго разу на рыжым, добра ўкормленым кані пад'ехалі расцялежаныя калёсы з доўгім смаловым бервяном. І самае вялікае было мне дзіва, што вазаком была жанчына. Была яна ў бушлаце і ў ватовых штанах, паверх якіх какетна спускалася кароткая спаднічка. Ад мае работы гэта было зусім недалёка. Я бачыў, як какетна на галаве ў яе завязана хустка каптурыкам. І твар — малады, прыгожы, свежы, трохі заружавелы на холадзе, усё роўна як нейкі святочны. Мне здалося, што я тысячу гадоў не бачыў жанчыны. Я здагадаўся, што яна з другога лагпункта, на якім жывуць адны жанкі. Я глядзеў на яе, як на цуд, як на царыцу, што паявілася тут нечакана. І ўспомніў, як у Мінску, у турме, на допытах, вымагаючы ад мяне неверагодных прызнанняў, следчы Быхаўскі, на мой пратэст, што ўсё гэта злосная няпраўда, трасучы кучараваю чупрынаю і пырскаючы слінаю, шалёна крычаў: «Ишь, сволочь, Иисус Христос нашелся, правда ему нужна! Нам нужна та правда, которой от тебя требуют!» — і тут жа пагрозліва дадаваў: — «От меня не уйдеше-ешь! Я тебя, сволочь, загоню в такие дебри, что ты десять лет п... не увидишь!» (Грэшна сказаць, але я ўзрадаваўся, ужо цяпер прачытаўшы ў газеце «Звязда» артыкул, у якім гаворыцца, што гэты следчы потым расстраляны сваёй жа сістэмай.)

І вось цяпер, куды раней як тыя абяцанні, я бачыў сапраўдны, мілы жаночы вобраз. Дзіва, казку, самую святую і чыстую жаданасць.

Спыніўшы падводу, з драбін яна ўзяла ахапак сена, панесла і кінула яго перад канём. Спакойна, талкавіта, яна пачала развязваць бервяно перш на возе, а потым перайшла к цялежцы. Толькі яна працягнула руку, каб развязаць вяроўку, як каню захацелася пасмакаваць адсунутыя каліўцы. Ён напяўся ў хамут і тузануў цялежку.

— Тпру, стой, у рот е..! — крыкнула жанчына на каня, робячы дасціпна, па-блатняцку адпрацаваны націск на другім складзе слова, якога я не асмельваюся напісаць.

Божухна! Я ўтрупянеў. Я азірнуўся, ці бачыў хто і ці чуў хто апроч мяне. Вядома, усе чулі. І ўсе спакойна, будзённа рабілі сваю работу — пілавалі, дзяўбалі зямлю, часалі шулы, габлявалі дошкі.

А я ўсё баяўся зноў зірнуць на яе. І ўсё ж быў рад, што ўбачыў.

Так і асталася яна ў памяці, як дзіва, як мара. Як светлая здань. Як царыца.

Як узнагарода.

# КАМПАЗІТАР, ДЫРЫЖОР, ФАЛЬКЛАРЫСТ

## Творчасць П. Карузы

Драматычны лёс, які напаткаў беларускую інтэлігенцыю ў часы сталіншчыны, не абмінуў і віленскага кампазітара і дырыжора, фальклардыста і музыказнаўцу — Паўла Восіпавіча Карузу.

Імя музыканта можна сустрэць у песенных зборах з серыі БНТ, невялікіх артыкулах, захавалася значная колькасць занатаваных ім матэрыялаў з фальклорных экспедыцый Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, у якіх ён удзельнічаў у 70-х гадах.

Павел Каруза атрымаў музычную адукацыю ў 20-ыя гады ў Віленскай кансерваторыі, дзе вучыўся па класе фартэпіяна ў Марцэліны Кімант-Яцыны, першага музычнага абраміцеля п'есы Дуніна-Марцінкевіча «Залёты», там жа займаўся і тэорыяй кампазіцыі... Да збірання народных песень далучыўся праз вядомага музыканта-фальклардыста Антона Грыневіча, якога лічыў сваім настаўнікам (і ўжо ў наш час у часопісе «Мастацтва Беларусі» (№ 9, 1983 г.) змясціў успаміны пра ягоную творчую спадчыну). Добра знаёмы быў П. Каруза з кампазітарамі К. Галкоўскім і С. Казурам, з іншымі дзеячамі культуры, якія на той час працавалі ў Вільні. Ён актыўна ўдзельнічаў у культурна-грамадскім руху Заходняй Беларусі праз кіраўніцтва хорам Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, выступленнямі ў друку, выбіраўся дэпутатам ад беларусаў у Польскі сейм.

Але палітычная дзейнасць не прыцягвала да сябе творчую асобу. Кампазітара займала праца над інструментальнымі п'есамі, хорамі, песнямі, музычны фальклор. Паступова расла колькасць напісаных твораў, сабраных песень. Але на той час, калі польскія санацыйныя ўлады зачынялі беларускія школы, запісваць народныя песні было справай цяжкай і небяспечнай, збіральніку даводзілася часта хавацца ад пільнага вока ў нялюдных месцах. Немагчымасць адкрытай праявы сваёй творчай дзейнасці прымусіла маладога кампазітара, як і многія тысячы іншых людзей з «усходніх крэсаў», шукаць падтрымкі ў Савецкай Беларусі. Але неўзабаве пасля пераходу польска-савецкай граніцы ён быў арыштаваны і сасланы на Салаўкі, дзе ўжо быў ягоны настаўнік, а таксама знаёмы па сейме дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху С. А. Рак-Міхайлоўскі.

Рэабілітаваны П. Каруза быў толькі пасля вайны і, вярнуўшыся на Беларусь, ён уладкаваўся дырыжорам Маладзечанскага абласнога ансамбля песні і танца. Аднак амаль праз два гады яго зноў саслалі, на гэты раз у Нарыльск, дзе ён працаваў у якасці дырыжора і кампазітара мясцовага тэатра драмы і музыкі да 1957 года, які прынёс канчатковую рэабілітацыю.

У Вільнюсе, куды вярнуўся П. Каруза на сталае жыццё, знайсці працу было нялёгка, і толькі з цягам часу ён зрабіўся дырыжорам і кампазітарам Дзяржаўнага ансамбля польскай песні і танца Літоўскай ССР. Пасля выхаду на пенсію творчасцю амаль не займаўся, за выключэннем удзелу ва ўжо згаданых фальклорных экспедыцыях АН. Незадаволенасць лёсам, стомленасць і перажыванні не спрыялі кампазітарскай дзейнасці, да таго ж, у час вяртання на Радзіму выпадкова загінула ўсё, створанае раней. І толькі дзякуючы трывала ўсталяваным кантактам з боку «мінскіх беларусаў», гэтага пажылога ўжо, вельмі інтэлігентнага чалавека ізноў удалося павярнуць да творчай дзейнасці. У выніку П. Каруза пачаў пісаць дзве тэарэтычныя працы па фальклоры: «Вытокі беларускага меласу» і «Абрадавыя песні Паазер'я» (засталіся няскончанымі). Стварае апрацоўкі беларускіх народных песень, арыгінальныя чатырохгалосныя хоры, усе a'capella, а таксама спрабуе сілы і ў інструментальным жанры — для струннага аркестра піша «Камерную сімфонію».

На жаль, гэтыя кантакты былі запозненыя, выканання сваіх твораў аўтар не дачакаўся, а беларуская музыка страціла аднаго з самых адданых ёй сваіх творцаў. Адметны факт: калі на кватэру да кампазітара прыходзілі літоўскія калегі, то яны, прагледзеўшы і праслухаўшы напісанае П. Карузам, згадзіліся ўсё гэта выдаць і выканаць пры ўмове... яго літоўскага аўтарства. Кампазітар-патрыёт адмовіўся.

Сярод творчай спадчыны кампазітара — 12 невялікіх арыгінальных хораў на словы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Л. Геніюш, Н. Гілевіча. Найбольш удалыя з іх — лірычныя, гамафонна-гарманічнага складу «О, край родны» і «Старыя дубы» (на вершы Я. Коласа). Ураджэнец паўночна-заходняй спеўнай зоны (Палаччына), як фальклардыст П. Каруза быў улюбёны ў яе непаўторную самабытнасць. Пра гэта сведчаць ягоныя апрацоўкі, у якіх старанна захоўваецца прынцып манадыйнасці абрадавай мелодыі. З яго роднай Пастаўшчыны ім запісана і апрацавана для змешанага хору арыгінальная «Вясельная». Пры маласкасці адметна-самабытных для поўначы Беларусі калядных напеваў, апрацоўвае для хору «Калядку», заснаваную на 2-х напевах (выхад і віншаванне гаспадару). Апошняя з ліку апрацаваных для хору — сюіта пад назвай «Беларусь мая спеўная». Яе склалі дзве песні на словы Л. Геніюш і чатыры народныя (жніўныя і дажыначныя). У невялікіх апрацоўках кампазітару ўдалося захаваць першабытную красу старадаўніх напеваў, прычым вельмі скупымі сродкамі.

Не ўсё створанае кампазітарам бездакорна з практычнага боку, ёсць і манатоннасць, і нецікавыя для выканаўца месцы, паспешлівасць. Дый разлічаны ягоныя апрацоўкі і хоры былі найперш на аматарскае выканаўства, адсюль і пераважна простая музычная мова, невялікі аб'ём. Затое ў творах П. Карузы жыве руплівая, улюбёная ў народную мелодыю душа збіральніка і знаўцы народных і песенных скарбаў.

«Мне важна,— казаў П. Каруза,— каб наша такая адметная архаіка магла выконвацца не толькі ў выглядзе дыямента ў «сырым» выглядзе фальклорнымі калектывамі, але і ў мастацкай аправе, толькі такой, якая не схавае за аправай самую сутнасць (мелаінтанацыйную) песні. Пры гэтым у роднай вопратцы, а не пазычанай».

**Віктар НОВІК,**
**старшы выкладчык Мінскага інстытута культуры.**



П. Каруза (трэці злева ў 1-м радзе) з хорам інстытута народнай гаспадаркі і культуры ў Вільні (30-я гады).



70-я гады (у Вільні).

# НАШ КАЛЯНДАР

**75 гадоў спаўняецца 2 сакавіка Веры Сізко, музыказнаўцы і педагогу, члену Саюза кампазітараў Беларусі. Вядзе актыўную лектарскую, музычна-прапагандысцкую дзейнасць.**

●

**Заслужанаму артысту БССР Андрэю Шпянёву — 50. Вядомы ў рэспубліцы музыкант, ён доўгі час працаваў піяністам у аркестры Дзяржтэлерадыё БССР, затым перайшоў у новы калектыў — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Музыкант - імправізатар мае і кампазітарскія набыткі: А. Шпянёў — аўтар музыкі да кінафільмаў і п'ес для эстраднага аркестра, Канцэрта для габоя і камернага аркестра, фантазій на тэмы твораў Я. Глебава і І. Лучанка, апрацовак беларускіх народных песень. Вядомы і як аранжыроўшчык.**

●

**70 гадоў споўнілася з дня нараджэння народнага артыста СССР Яраслава Вашчака. Вядомы музычны дзеяч, ён з 1972 г. да апошніх сваіх дзён працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР: галоўным дырыжорам, дырыжорам. Пад музычным кіраўніцтвам Я. Вашчака былі пастаўлены адметныя спектаклі опернага і балетнага рэпертуару: «Джардана Бруна» С. Картэса, «Міндзія» А. Тактакішвілі, «Карміна Бурана» К. Орфа, «Кармэн-сюіта» Ж. Бізэ — Р. Шчадрына, «Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага, «Галька» С. Манюшкі і інш.**

**Апошняя праца, у якую Я. Вашчак уклаў свой велізарны музыканцкі вопыт, талент дырыжора і настаўніка, — першая опера маладога кампазітара У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха». Музычны кіраўнік і дырыжор гэтай пастаноўкі Яраслаў Антонавіч Вашчак не дажыў да яе прэм'ернага паказу... Сярод стваральнікаў оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» ён адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР за 1990 год — пасмяротна.**

**Чарговы спектакль «Дзікае паляванне караля Стаха» тэатр прысвяціў памяці маэстра, якому споўнілася б семдзесят...**

# КЛАС ПЕДАГОГА

**У камернай зале БДФ адбыўся канцэрт дацэнта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Леаніда Івашкова, прысвечаны 25-годдзю творчай дзейнасці спевака. Разам з ім у канцэрце выступілі колішнія выпускнікі класа Л. Івашкова, цяпер ужо вядомыя вакалісты: саліст БДФ заслужаны артыст БССР І. Краснадубскі, салісты ДАВТа лаўрэаты конкурсаў І. Шупеніч, М. Жылін, саліст тэатра музычнай камедыі Г. Нікіцін, а таксама студэнты БДК А. Міхневіч, В. Мінгалёў, І. Гузееў, С. Франкоўскі і А. Краснадубскі.**

**У разнастайнай праграме, якую цёпла прыняла публіка, прагучалі творы А. Луццы, В. Моцарта, Ф. Шуберта, П. Чайкоўскага, Э. Грыга, У. Алоўнікава, У. Дарохіна і іншых, народныя песні, дуэты А. Варламава і А. Бланджыні.**

**І. Л.**

КОНКУРСЫ

# «ПЕРАМОЖАНЫХ НЯМА...»

Пытанне пра тое, як будзе развівацца мастацтва Беларусі, важнае сёння не толькі для прафесіяналаў. Бо ў мастацтве, у культуры народа — яго душа, сіла, яго нацыянальная значнасць. А для плённага развіцця мастацтва вельмі істотная ўзаемасувязь, пераемнасць творчых пакаленняў, пастаянны прыток новых сіл, здольных абнавіць і ўзбагаціць яго. Каб выяўляць маладыя таленты, неабходны творчыя спаборніцтвы. Вось і ў Маладзечне прайшоў нядаўна конкурс выканаўцаў на драўляных духавых інструментах. Яго ўдзельнікі — студэнты БДК, Уральскай кансерваторыі, салісты Белдзяржфілармоніі, навучэнцы музычных вучылішчаў рэспублікі.

Старшыня журы, прафесар Вільнюскай кансерваторыі, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы А. Будрыс скажа потым, уручаючы ўзнагароды: «Пераможаных на конкурсе няма». З гэтай высновай можна пагадзіцца. Усе канкурсанты паказалі сваю прафесійную годнасць, канкурэнтаздольнасць і, несумненна, навучыліся пад час спаборніцтва таму многаму, чаго нельга атрымаць у класе самага строгага і патрабавальнага педагога.

Няпроста было журы вылучыць лепшых з 35 удзельнікаў. І ўсё ж лаўрэаты і дыпламанты названы. Сярод іх — студэнты БДК Я. Віданаў, С. Балыка, С. Картэс, В. Татур, І. Ляшчышын, М. Фельдман, В. Чарнамордзік, А. Дзмітрусік, А. Мазурын, А. Мурзіч, В. Шыла, Я. Гелер, А. Алясюк, В. Іваноў, А. Вакуленка, А. Даннік, Т. Кажгаліеў, артыст БДФ П. Лук'янёнак. Спецыяльны прыз журы — за лепшае выкананне твора беларускага кампазітара атрымаў студэнт Уральскай кансерваторыі А. Ярыніч. Атрымалі ўзнагароды і канцэртмайстры, ад чыйго мастацтва ў многім залежаў поспех выступленняў: А. Вавілава, І. Самойлава, І. Калеснікава, С. Тургель і інш.

Слухачы конкурсных выступленняў атрымалі ўяўленне не толькі пра лепшых прадстаўнікоў маладога пакалення выканаўцаў духавікоў рэспублікі: была таксама магчымасць пашырыць музычны кругагляд, бо разнастайная праграма ўключала творы І.-С. Баха і В. А. Моцарта, Л. Шпора, К. Сен-Санса, Э. Дзянісава, Е. Боза, Р. Шумана, М. Ракава, С. Васіленкі, С. Бельцюкова і мноства іншых аўтараў, п'есы якіх гучаць рэдка. Словам, конкурс стаўся падзеяй не толькі для лаўрэатаў, але і для аматараў і знаўцаў музыкі, якія яго наведалі.

Нельга не прыгадаць і тых, хто паклапаціўся пра ўмовы для працы журы і творчасці выканаўцаў. Аргкамітэт конкурсу, які ўзначальваў дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча Г. Сарока, зрабіў усё належнае для вырашэння розных бытавых пытанняў, арганізацыі адпачынку, падрыхтоўкі прызоў, падабраных, дарэчы, з густам і любоўю: палотны прафесійных мастакоў Маладзечна, кнігі пра Скарыну.

А пераможцаў чакае новы рубеж выпрабаванняў — удзел у міжрэспубліканскім конкурсе, які адбудзецца сёлета ў Мінску.

**Людміла ЛЯШЧЭВІЧ,**
**выкладчык музвучылішча.**
г. Маладзечна.

# «РАЗНЯВОЛІЦЬ СВАЙГО ВУЧНЯ»

**Жыццё вымагае зразумець: узровень цывілізацыі народа вызначаецца станам ягонай культуры, прэстыжам культурных каштоўнасцей у грамадстве. Сёння мы радуемся таму, што асігнаванні на культуру павялічыліся з 0,87 працэнта да 1—2. Гэта дасягненне! Здавалася б, так. Але вось, напрыклад, абвестка пра набор слухачоў у Інстытут палітапогіі і сацыяльнага кіравання (былая ВПШ). Якіх толькі кафедраў там няма: тэорыі сацыялізму і палітапогіі; гісторыі КПСС і палітычнай гісторыі; тэорыі партыі і грамадскіх рухаў; палітычнай культуры і ідэалогіі, нават тэорыі і гісторыі культуры... А на рагу Ленінскага праспекта і вуліцы Сурганава ўжо каторае дзесяцігоддзе туліцца ў невялікім будынку Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут: з заўсёднай няхваткай майстэрань, аўдыторый, са змешчаным «плаваючым» графікам завочных заняткаў...**

**Адзін працэнт на культуру, два працэнты...**

**3 ліпеня 1990 года ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце працуе атэстацыйная камісія Дзяржкамітэта па адукацыі пры Міністэрстве культуры СССР. Мы папрасілі старшыню гэтай камісіі — народнага артыста СССР, галоўнага рэжысёра і дырэктара Маскоўскага драматычнага тэатра імя Ярмолавай Уладзіміра АНДРЭЕВА падзяліцца сваімі разважаннямі пра стан БДТМІ, пра перспектывы і кірункі развіцця тэатральнай педагогікі.**

— У нашу камісію ўваходзяць вядучыя педагогі, прафесары і прадстаўнікі адміністрацыі ВНУ мастацтва краіны, — сказаў Уладзімір Аляксеевіч. — Камісія знаёмілася з усімі накірункамі дзейнасці Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, звяртаючы ўвагу на якасць падрыхтоўкі спецыялістаў, арганізацыю вучэбнага працэсу, арганізацыю навуковай дзейнасці ВНУ і яе матэрыяльную базу.

Мы, аднак, маем на мэце не расставіць ацэнкі педагогам, а ўзяць штосьці карыснае і для ўласнай практыкі. На маю думку, БДТМІ па шматпрофільнасці сваёй дзейнасці ўжо даўно мае права быць Акадэміяй мастацтваў. Гэта вялікая творчая ўстанова, дзе працуюць розныя педагагічныя індывідуальнасці, якія прапаноўваюць свае накірункі ў педагогіцы. Я ўбачыў тут шмат людзей, улюбёных у сваю справу. Дзе б мы ні былі: на занятках па танцы, сцэнічным руху, сцэнічнай мове, графіцы—усюды пераконваліся, якое значэнне мае індывідуальнасць педагога. У інстытуце побач са старэйшымі вопытнымі педагогамі працуюць маладыя людзі з новымі ідэямі і задумамі. Захоўваючы традыцыі, інстытут пакідае ўражанне творчай арганізацыі, якая шукае.

**— Якія праблемы БДТМІ адразу кінуліся ў вочы?**

— Благая матэрыяльная база. Калі я трапляю ў майстэрню і бачу, як людзі натыкаюцца адзін на аднаго, мне хочацца запрасіць сюды вашы гарадскія і рэспубліканскія ўлады. Хацелася б бачыць адносіны ВНУ і рэспублікі іншымі. Перадусім варта даць адчуць гораду і рэспубліцы, што БДТМІ — культурны цэнтр, які патрабуе адпаведнай увагі і дапамогі. Мае права на яе, — хоць бы таму, што рыхтуе і выхоўвае будучыню беларускай культуры. Не сакрэт, што атэстацыя (катэгарыйнасць) інстытута дае права на пашырэнне ягоных магчымасцей, умацоўвае ягоны прэстыж.

**— Вы не адзін дзесятак гадоў аддалі тэатральнай педагогіцы, узначальваеце кафедру акцёрскага майстэрства ў Інстытуце тэатральнага мастацтва імя Луначарскага. Як, на ваш погляд, мяняюцца цяперашнія студэнты, чым яны адрозніваюцца ад папярэдніх пакаленняў акцёрскай моладзі?**

— Вы ведаеце, раней я са сваімі студэнтамі быў строгі. Цяпер—не. І не таму, што хачу ім спадабацца. Проста прадстаўнікі майго пакалення застаюцца рамантыкамі. Сённяшнія маладыя — куды больш цвярозыя. Палова маіх студэнтаў задзейнічана ў прафесійных спектаклях. Яны ведаюць ужо, што такое тэатр. Але пры такой абсалютнай «сталасці» яны захоўваюць інфантылізм. Больш за тое, сацыяльныя праблемы нараджаюць у маладых інерцыю і закамплексаванасць. Таму, скажам, у педагогіцы я вельмі цаню людзей, што маюць жаданне адкрыць, разняволіць свайго вучня. Мяняюцца абставіны, сітуацыі, але прырода чалавека, дадзеная ад Бога, застаецца. Памагчы прыродзе вызваліцца — задача тэатральнага педагога. Свядома разнявольваючы будучага мастака, трэба далучыць яго да ўмення мысліць вобразамі. А для гэтага — памагчы ўвайсці яму ў кантэкст агульнай культуры.

**— У нас у краіне шмат тэатральных інстытутаў. І ўсе яны ў тэатральнай педагогіцы грунтуюцца на адной школе — груба кажучы, вучаць паводле Станіслаўскага. Ці не здаецца вам, што такі манапалізм збядняе мастацтва?**

— Я так не думаю. Школа — гэта адно, а накірункі — гэта другое. Манер, накірункаў можа быць шмат, але школа — адна. Станіслаўскаму ўдалося падсумаваць і сістэматызаваць вельмі многае, што тычыцца самой прыроды акцёрскага мастацтва, прыроды чалавека.

Інтэрв'ю ўзяла Таццяна **РАТАБЫЛЬСКАЯ.**

# СЁННЯ ПРЭМ'ЕРА. А ЗАЎТРА?

## Тэатр чакае спонсараў

Следчую справу Васіля Вашчылы і іншыя дакументальныя матэрыялы пра кіраўніка буйнейшага ў беларускай гісторыі народнага паўстання знайшлі вучоныя. Другое жыццё навуковаму матэрыялу даў драматург Іван Чыгрынаў. Адбылася ўжо і прэм'ера па ягонай п'есе «Следчая справа Васіля Вашчылы»; паставіў спектакль калектыў Тэатра-студыі гістарычнай драмы і камедыі, створаны не так даўно пры Беларускім фондзе культуры. Творчы калектыў па-свойму асэнсаваў змест драмы, паспрабаваў сцвердзіць думку пра тое, што ніякія высокія ідэі не могуць апраўдаць ахвяр змагання, людскую кроў.

У рэпертуары тэатра—складаныя і не заўсёды «касавыя» творы. Напрыклад, такія, як «З нагоды мокрага снегу» Ф. Дастаеўскага, «У чаканні Гадо» С. Бекета.

— Але ж асноўная мэта тэатра — адраджэнне беларускай культуры,— гаворыць мастацкі кіраўнік тэатра і рэжысёр Уладзімір Матросаў.— У нашых планах — спектаклі па творах Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, стварэнне дзіцячай студыі, дзе хлопчыкі і дзяўчаткі спачатку будуць вучыцца майстэрству гледача, а потым — авалодваць уменнем разумець і даносіць да людзей здабыткі сусветнай і беларускай культуры, удзельнічаць у пастаноўках.

У наступным спектаклі,— працягвае У. Матросаў,— пойдзе гаворка пра надзвычай цяжкі лёс культуры роднага народа, пра сённяшні яе катастрафічны стан. Мы звяртаемся да невычэрпнага багацця творчасці Янкі Купалы, да дакументаў чарнобыльскай трагедыі. Праўда, шматграннасць п'есы патрабуе шмат сродкаў, таму вымушаны звярнуцца да калектываў прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый з вялікай просьбай адгукнуцца ў якасці спонсараў.

**В. КУДРАЎЦАВА.**



«Следчая справа Васіля Вашчылы» І. Чыгрынава. Сцэна са спектакля.

Фота В. САВІЧА.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Прысвечана Шагалу



**Малады віцебскі скульптар Іван Казак прысвяціў новы твор свайму славутаму земляку Марку Шагалу. Кампазіцыя, якая спалучае партрэт Шагала ў сталым узросце і фрагменты ранніх палотнаў мастака, задумана як мемарыяльная шыльда.**

**Скульптар звярнуўся да віцебскіх уладаў з просьбай адліць кампазіцыю ў бронзе ў двух экзэмплярах з такім разлікам, каб адзін пакінуць у Віцебску, другі — падарыць ад імя горада ўдаве Марка Шагала. Прэзідыум Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў прапанову маладога скульптара прыняў з удзячнасцю.**

**У хуткім часе ў Францыю да ўдавы мастака В. Г. Бродскай будзе накіравана дэлегацыя абласнога Савета народных дэпутатаў, каб перадаць падарунак і завязаць першыя, прама скажам, доўгачаканыя дзелавыя кантакты.**

**А. БРУЦКІ.**

# САМ-НАСАМ СА СВЕТАМ

**Сваё афіцыйнае існаванне паводле штатнага раскладу Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» пачаў месяц таму назад пры Белдзяржфілармоніі. Актрыса Галіна Дзягілева, што натхніла ідэяй падобнага тэатра адказных асоб, стварае яго ўжо колькі гадоў...**

**Згадаю хоць бы монаспектаклі (не літмантажы ці праграмы) па вершах Анатоля Вярцінскага і Яўгена Шабана, праграму «Мне сняцца сны аб Беларусі» паводле Янкі Купалы. Спектакль «Выгнанне ў рай» В. Тарнаўскайтэ і В. Амромінай, прэм'ера якога адбылася на леташнім фестывалі «Студыйныя калядь», даў падставы сцвярджаць: актрысу нібы сам лёс вяртае на тэатральныя падмосткі (калісь Галіна працавала ў Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа). У Рызе, Вільні і Мінску спектакль аднолькава вымагаў глядацкага суперажывання, паважанага стаўлення да беларускага паэтычнага слова і жадання зразумець вытанчаную тэатральную мову актрысы Г. Дзягілевай і рэжысёра В. Тарнаўскайтэ.**

**Думка пра паэтычны тэатр канчаткова выспела ў вандроўцы па Беластоцкім краі. Высветлілася, што для тамтэйшых гледачоў Галіна Дзягілева ўвасабляла сабою не толькі адметную «творчую адзінку», але прадстаўляла цэлы тэатр; пра ягоныя справы распытвалі яе ў Чыжах, Орлі, Кляшчэлях, у Гайнаўскім беларускім ліцэі, у Беластоку, нарэшце, у Варшаўскім аддзеле БГКТ...**

— Я шмат думала пра такі тэатр, — разважае Галіна, — бо хачу быць сам-насам са светам гледачоў, хачу, каб пачулі мой голас з усімі ягонымі інтанацыямі... Лепей удакладніць адразу: «Зьніч» — тэатр не адной актрысы Галіны Дзягілевай. Мастацкае кіраўніцтва ажыццяўляе рэжысёр Ніна Осіпава. Яна, мабыць, і вырашыць, хто яшчэ з акцёраў мог бы рыхтаваць на нашай сцэне (гэта пакуль сцэна філармоніі) свае паэтычныя монаспектаклі. Важна і тое, што мы пакуль мусім адмовіцца ад небеларускага рэпертуару, — «Зьніч» падтрымлівае нацыянальнае Адраджэнне і найперш мае на ўвазе своеасаблівую асвету гледача (які хутчэй прыгадае з Пушкіна і Някрасава, як з Купалы і Багдановіча). Задача тэатра — даць уяўленне пра магчымасці і вартасці беларускага слова, пра асаблівасці мовы паэтычнай і мовы тэатральнай...

**А перадусім, дадам ад сябе, пра невычэрпнасць і шматаблічнасць творцы, які рызыкуе заставацца сам-насам са светам сваіх гледачоў і намагаецца паяднаць слова вымаўленае і справу зробленую.**

**Ж. Л.**

# МІНУЛАЕ Ў КЛАСІЧНЫМ АБЛІЧЧЫ

**У Дзяржаўным мастацкім музеі працуе выстава «Рускі пейзаж і партрэт канца XIX — пачатку XX стагоддзя» з фондаў музея. Работы экспануюцца ўпершыню.**

...У зале цішыня, толькі ўдалечыні чуваць прыглушаныя галасы. Твар дзяўчыны адбіваецца ў авальным шкле партрэта — як прывід у сумных вачах жанчыны XIX ст. Класічны твар, сказаў бы мастак. У яе? Ці ў тых, што вакол? Азірніцеся. Стомлены, арыстакратычны твар жанчыны мінулага стагоддзя, лёгкая задуменнасць невядомай дзяўчыны. І пейзажы, маляўнічыя, настальгічныя..

Ці маглі ўявіць сабе яны, вядомыя і зусім невядомыя сёння мастакі, што для гледачоў канца XX стагоддзя, звыкла ўспрымаючы форму асобна і змест асобна, будзе нялёгка ўспрыняць, зразумець цэльнасць іх твораў, цэльнасць іх свету, проста ўгледзецца і адчуць жывую сілу мастацтва, думкі і надзеі пакалення. Па гэтых творах можна вучыцца тэхніцы малюнка і жывапісу. Яны могуць быць матэрыялам для навукоўцаў, што вывучаюць матэрыяльную культуру мінуўшчыны. Але не гэта галоўнае. «Класічныя» каноны не перашкаджаюць нам убачыць стомленыя вочы старой (Ф. Малявін. «Старая», 1915 г.), мефістофельскую ўсмешку невядомага чалавека (М. Шамякін. «Мужчынскі партрэт»), убачыць твар эпохі, што адышла ў нябыт.

Прыйдзіце на выставу, павольна прайдзіцеся, не чытаючы подпісаў на шыльдачках. Проста глядзіце ў вочы людзей XIX стагоддзя. Шкада, калі мы самі змянілі сваё аблічча настолькі, што адзінае авангарднае мастацтва, як тэатр абсурду, з'яўляецца нашай існасцю.

Дык які ён, наш учарашні і наш сённяшні «класічны» твар?

**Н. ШАРАНГОВІЧ.**

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**



## МАЛІТВА ДЛЯ ТАТЫ

Жыву я, татачка, добра.
Людзей усур'ёз успрымаю.
Перамагла сваё даўняе гора.
Што трэба душы, не маю.

Калі патрапіў на неба,
дзе шмат усяго мае Божа,
унуку для шчасця крыху трэба грошай,
і ўнучцы без долечкі нельга.

А мама з сястрыцай Рэняй
гадуюць туман каля вёскі.
Насыплеш праўнукам зорачак з неба —
збіраць будуць, сыпаць слёзкі.

Жывеш ва ўспамінах, як ціхае свята.
Як вочы ўздымаюцца ўгору,
ты з роднага бору вяртаешся, тата,
і сонца вяртаецца з бору.

І я наіўна чакаю з неба
татавага ўваскрашэння.
І мне ў жыцці нічога не трэба —
ні слёзаў, ні суцяшэння.

## МАЛІТВА ЗА МАРЫЮ

Яшчэ разгорнем краіну-бранку,
як лекар кнігі старыя.
Гадуй, Марыя, дачушку Янку,
з вамі — Святая Марыя.

Між нас, жанчын, здараюцца людзі.
Жанчыны, мы будзьма людзьмі.
Ты думаеш, шчасця болей не будзе
і Янка ўсе зоркі зацміць?

Вярнуць пяшчоту адзінага ў свеце,
як выпрасіць Божую ласку.
Ды вы, Марыя з Янкай, жывеце
па-людску, а не па-бабску.

Навошта хавацца ад бацькі, а Пана
не шчасцем цешыць — слязамі?
Але расці, таямніца Яна,
Святая Марыя з вамі.

## МАЛІТВА САМОТНАЙ

Божа, з самотнай цемры
малітвай шукаю еднасць.
Ты бачыш грахі майго цела,
сорам, ганьбу і беднасць.

Тлум выдумаў мне пакаранне —
пакутлівае кананне
ў адачаі, ў самоце, ў скрусе,
а я да цябе малюся.

Вымаўляючы Тваё імя,
згодна жыву між найгоршых,
пакінутая жывымі,
свабодная між памёршых...

У замуці, ў завірусе,
у Тваім найшчырэйшым свеце —
лішняя ў Беларусі,
прашу Беларусі бяссмерця.

## ЦІХА Ў КУТОЧКУ

Да Твае аховы звяртаюся,
Святая Божая Маці,
не цурайся просьбы ў маёй патрэбе,
зрабі ласку ўмацаваць маё цела,
каб выпрабаванне любоўю,
якое служка Твая жыццё мне дарує,
не разбурала натуру маю да астатку, —
шкадаваннем параніць баюся
душу самой дасканаласці
сябра тутэйшага. Аман.

... Сябра спіць у суседнім пакоі —
спрацаваны, у неспакоі.

Ён свой лёс паклаў непакорны
на алтар святой Беларусі.
Толькі я за яго малюся.

Твар ягоны раз'яснены, зорны,
маладыя маршчынкі, бровы
хай узніме сон цудатворны
да Твае аховы.

# «ЁСЦЬ ПАД ШКЛОВАМ МАЛІНАВЫ РАЙ...»

## Гісторыя аднаго верша

Час ад часу летняй парой мне даводзілася з Аляксеем Пысіным выязджаць у лес па грыбы і ягады. Грыбнік ён быў заўзяты. Ды і ягады збіраў больш спрытна, чым я. Ганарыўся гэтым. У лесе ён забываўся на ўсе турботы жыцця, якіх заўсёды хапала.

У пачатку жніўня 1978 года па маліну мы паехалі на Шклоўшчыну. Гадам раней Аляксей Васільевіч збіраў маліну ў лесе ля вёсак Карзеева і Пудаўні. Там жылі яго сябры Савелій Асіповіч і Віктар Гаўрусёў, брат паэта Сцяпана Гаўрусёва. Ад маёй сястры Н. Арцёменкі, якая працавала на той час настаўніцай у Заходскай сярэдняй школе, даведаліся мы, што ягады ўрадзілі і ля вёскі Еўдакімавічы ў Заходскім лесе.

Прайшоўшы берагам рэчкі, што змейкай вілася ўздоўж Аршанскай шашы, двойчы пераразаючы яе, мы трапілі на выдатную мясціну. Праўда, малін было не надта багата, бо мы прыйшлі сюды ўжо не першыя. Затое — якая прыгажосць! Арэшнік з малінай раслі на тэрасах, якія ад рэчкі паласой больш за трыста метраў узнімаліся на пагорак.

Адкрылася незвычайнае відовішча: шаша, рэчка, поле, за ім лес — усё на адлегласці да пяці кіламетраў як на далоні. Дзень сонечны, ціхі, ласкавы. Сапраўдны рай. Хораша адпачылі і маліны сабралі.

На заходзе сонца вярнуліся ў вёску. Пасля яркіх уражанняў ад лясного харастве чай здаўся незвычайна духмяным, а вячэра смачнай.

Муж сястры С. Бацукоў нагадаў Аляксею Васільевічу, што ў мясцовай школе яго часта ўспамінаюць.

— А з якой нагоды?— пацікавіўся А. Пысін.

— Крытычны артыкул вы пісалі.

Такія звесткі прыкметна азмрочылі ледзь ці не святочны настрой паэта. Ён шчыра прызнаўся:

— Глядзі ты! Я даўно забыў, бо калі тое было, а людзі яшчэ помняць!

Назаўтра, ужо ў Магілёве, пры сустрэчы са мной зноў загаварыў:

— Аказваецца, людзі ўсё помняць!

Пазней, у новых абставінах і ў іншым лесе, Аляксей Васільевіч прыязна ўспамінаў Заходскі лес на шклоўскай зямлі і абавязкова дабаўляў пры гэтым: малінавы рай. А аднойчы ўжо восенню прачытаў мне безназоўны верш:

Есць пад Шкловам
малінавы рай,
Там каліна з малінай
спляліся.
Адгарні адапалаўшае
лісце—
І маліну, як жар, зграбай.

Спее ўсё на зямлі для
людзей,
І—маліна ў густым
шматгалоссі.
Хоць не столькі яе, як
здалося,
Ды крыху на душы
саладзей.

Верш, можа, і не вельмі гучны, але затое шчыры і шчодры, як душа паэта. Верш увайшоў у зборнік твораў «Палёт», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1982 годзе, пасля смерці А. Пысіна.

Успомніўшы Аляксея Васільевіча, я заўсёды прыгадваю і шклоўскі малінавы рай. Яно сапраўды, «крыху на душы саладзей», лягчэй становіцца.

**В. АРЦЁМ'ЕЎ.**

# ЦІ ДЭМАКРАТЫ ДАВЯЛІ ДА КРЫЗІСУ?

(Пачатак на стар. 5).

выратавання, тыя ж дэсантнікі, танкісты і заўсёды пільныя чэкісты.

Розніца хіба толькі ў тым, што калі армейскія камандзіры пад час чэхаславацкіх падзей 1968 года загадалі сваім падначаленым лепш пускаць танкі пад адхон, чым забіваць перагарадзіўшых дарогу жанчын і дзяцей, то сёлетнія камандзіры гарнізонаў і «ОМОНов» рабілі нешта прама процілеглае. Мабыць, ім здавалася, што гусеніцамі танкаў і рулямі аўтаматаў можна знішчыць само імкненне людзей жыць у адпаведнасці са зробленым імі выбарам, калі нават ён істотна адрозніваецца ад выбару прыхільнікаў Буракявічуса, Алксніса ці Яравога.

Неверагодна, але факт: неканстытуцыйным шляхам, па загадзе двух міністраў у краіне фактычна ўведзены элементы надзвычайнага становішча. Што ж, калі б сумеснае патруляванне вуліц ваеннымі і міліцыяй сапраўды прадухіліла разбой і грабяжы сярод белага дня, згвалтаванне трынаццацігадовых дзяўчынак, то за такую меру можна было б прагаласаваць дзвюма рукамі. Калі ж узброеныя нарады будуць зносіць палаткі галадаючых на плошчах, арыштоўваць пікетчыкаў-рабочых ля будынкаў гарсаветаў, разганяць пры дапамозе бронетранспарцёраў удзельнікаў маніфестацый і мітынгаў, то гэта, прабачце, ужо нешта накшталт ваеннай дыктатуры ці нядобрай памяці яжоўшчыны.

Як і належыць у такіх абставінах, наступленне на дэмакратычныя заваёвы разгортваецца па ўсім фронце. Дзе тая, скажам, эканамічная свабода, той дух прадпрымальніцтва і здаровай канкурэнцыі, аб якіх так многа шумелі на розных нарадах і сесіях? Пасля паўлаўскай грашовай рэформы і прэзідэнцкай праграмы стабілізацыі з васьмі пунктаў ад вышэйназваных катэгорый засталіся толькі рожкі ды ножкі, а словы «прыватнік», «кааператар», «арандатар» шмат для каго проста папоўнілі арсенал лаянкі і абразлівасці... Мэтанакіраванае ўзбуджэнне «тбіліскага сіндрому», паглыбленне канфрантацыі з грамадскімі рухамі, ажыўленне цэнзуры ў эфіры і сродках масавай інфармацыі робяць ілюзорнымі палітычныя правы і свабоды грамадзян. Дагматызм і эклектыка, жданаўска-суслаўскае разуменне складаных з'яў жыцця паціхеньку вяртаюцца ў публіцыстыку, літаратурна-крытычныя і мастацкія творы, тэарэтычныя распрацоўкі навукоўцаў-эканамістаў, палітолагаў і юрыстаў.

САПРАЎДНАЙ трагедыяй нашай яшчэ кволай дэмакратыі стала страта даверу народа да выбранай ім улады. Назавіце, калі ласка, ці хоць бы пакажыце на карце тую краіну, дзе б увесь народ стаяў у чэргах і калаціўся ад страху перад магчымым не сёння — заўтра павышэннем цэн? Уявіце паважаючых сябе людзей, якія б прастойвалі дзесяткі гадзін за талонамі і візіткамі, а пасля суткамі, тыднямі дзяжурылі ля дзвярэй магазінаў, каб дастаць чаравікі ці калготкі для дзіцяці, спадніцу, штаны ці бялізну для ўласнага карыстання? Зразумела, уявіць такое проста немагчыма. І застанецца толькі спытаць: «Хто ж загнаў народ у гэтую бясконцую і не маючую ніякага прасвету Чаргу галечы? Якое дачыненне да гэтага няшчасця маюць дэмакраты і лібералы, якім ніхто і не збіраецца перадаваць рычагі рэальнай улады, хіба што некалькі свабодных мікрафонаў у зале пасяджэнняў ці кавалачак паперы для напісання запыту члену ўрада?»

І вельмі здзіўляе пасля гэтага, што той самы выстраены ў шарэнгі народ палохаюць разбуральнай сілай так званай «мітынговай дэмакратыі». Напэўна, сёй-той добра разумее, што калі ў доўгай чарзе людское нездавальненне выліваецца, як правіла, у канфлікты і сваркі паміж сабой, то на шматлюдных мітынгах іх удзельнікі запатрабавалі б ад канкрэтных асоб і органаў улады рабіць нешта больш канкрэтнае і адчувальнае, чымсьці спрачацца шэсць гадоў наконт мэтазгоднасці рынку і шматпартыйнасці. Выдатна ведаюць яны і тое, чым закончыліся падобныя патрабаванні ва ўсходнееўрапейскіх краінах — дастаткова было правесці з дзесятак масавых мітынгаў, і таталітарныя рэжымы неадкладна змяніліся дэмакратычнымі. (У Маскве 20 студзеня гэтага года прайшла грандыёзная трохсоттысячная маніфестацыя ў падтрымку дэмакратыі, але на яе ніхто не звярнуў ніякай увагі!)

Тым больш прыходзіцца шкадаваць, што нашы айчынныя лідэры ніяк не хочуць падпарадкавацца аб'ектыўнаму закону быцця аб нязменнасці чалавечага імкнення да свабоды. Яго не ў стане стрымаць любыя забароны, абмежаванні, рэгламентацыі і нават, па вобразным выразе Васіля Гросмана, «вечное непрекращающееся, прямое или замаскированное, сверхнасилие», якое складае аснову таталітарызму. Чалавек, на думку пісьменніка, добраахвотна не адмовіцца ад свабоды, і ў гэтай выснове «свет нашего времени, свет будущего».

Ды і наш уласны гістарычны вопыт паказаў поўную бесперспектыўнасць і антыгуманны характар аўтарытарна-дыктатарскіх метадаў рэгулявання грамадскіх адносін. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца дзесяткі мільёнаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій, якія знайшлі сваю смерць або неверагодныя пакуты на незлічоных астраўках таго Архіпелага, які бязлітасна перасек усю нашу змучаную краіну, урэзаўся ў яе гарады і вёскі, пакалечыў лёс не аднаго пакалення савецкіх людзей. Павучальным урокам гэтага «вопыту» служыць таксама высакародная праца тысяч нашых сучаснікаў па ўшанаванні памяці загінуўшых, неадольнае жаданне людзей не памыліцца яшчэ раз, не дапусціць, каб заняліся сваёй бруднай работай рукі, якія закручвалі наручнікі нявольнікам ГУЛАГа і якія сёння ўзводзяць сцяну маўчання вакол былых злачынстваў і генацыду.

Каб пазбегнуць вялікага сацыяльнага выбуху, які неўзабаве можа здарыцца ў выніку татальнага крызісу ў краіне, рэзкага павароту яе кіраўніцтва ўправа, патрэбны ўзаемапаразуменне, грамадзянская згода, пошук цывілізаваных форм пераадолення канфрантацыі паміж процідзеючымі бакамі ў дзяржаўных і грамадскіх структурах на ўсіх узроўнях, ва ўсіх рэгіёнах. Кансалідацыі грамадства маглі б садзейнічаць такія меры, як стварэнне ўрада народнага даверу, прывядзенне ў дзеянне фактычна ўжо адмененых эканамічных метадаў гаспадарання, паскарэння працэсу канстытуцыйнага прызнання палітычных партый і рухаў, у тым ліку апазіцыйных, а галоўнае — правядзенне ўжо ў першай палове гэтага года выбараў Вярхоўнага Савета СССР на шматпартыйнай аснове. (У гэтых адносінах нам падносіць добры ўрок нават Албанія, якую мы яшчэ ўчора звалі «орлиным гнездом сталинизма»).

Без аб'яднання і сумеснай работы ўсіх палітычных сіл, усіх нераўнадушных грамадзян не вырашыць і складаных праблем нашай рэспублікі. Сваё важкае слова тут маглі б сказаць члены дэмакратычнага клуба і група камуністаў у Вярхоўным Савеце БССР, іх аднадумцы ў мясцовых Саветах, незалежных прафсаюзных, жаночых і маладзёжных арганізацыях. Тым больш, што да канструктыўнага супрацоўніцтва і спаборніцтва незалежных і раўнапраўных палітычных сіл заклікаў XXXI з'езд Кампартыі Беларусі. На парадак дня паўстае пытанне аб стварэнні Дэмакратычнага кангрэса (або форума) Беларусі, які аб'яднаў бы ўсе партыі і рухі агульнадэмакратычнай, гуманістычнай накіраванасці.

Час патрабуе адказных рашэнняў і дзеянняў. І так хацелася б, каб усе ўсвядомілі, што абнаўленне нашага грамадства, яго шлях да сацыяльнага прагрэсу і міру магчымыя толькі ў напрамку Дэмакратыі. У гэтым — сама логіка, сама неадольная сіла жыцця.

# ПАКУЛЬ НЕ ЗНІШЧАНЫ АПОШНІЯ СЛЯДЫ...





Вайна пакінула ў гэтай зямлі так многа небяспекі, што і цяпер хадзіць там — значыць шукаць смерць. Але сюды, на Дубровенскія балоты, дзе ў 1943—1944 гадах дзевяць месяцаў «стаяў фронт», усё роўна ішлі. Той, хто адважваўся там сеяць і касіць—не-не , дый быў «узнагароджаны» выбухам міны ці снарада.

Былі такія, што шукалі тут на цацкі франтавыя ўзнагароды — медалі і ордэны, і лічылі іх не штукамі — жменямі. Хоць і ведалі, што за кожным нумарам стаіць чалавек, весткі пра якога чакаюць яшчэ дагэтуль.

Але як доўга — амаль сорак гадоў — сюды не ішлі да тых, хто загінуў, да салдат, да вызваліцеляў, ад якіх толькі і засталося ўсяго той памяці, што косці ды скураныя чаравікі. Хаця, чаму ж, фармальныя перазахаванні на Дубровеншчыне там-сям рабіліся. Мемарыяльны комплекс «Рыленкі»— таму сведчанне. Больш як дзесяць тысяч забітых. А колькі вакол непахаваных, забытых, непадлічаных? На жаль, пошук іх не ўваходзіў у планы пяцігодак.

Як ні дзіўна, але сцежкі ў гэтых небяспечных месцах ніколі не зарасталі, як варонкі ад выбухаў. Не воўчыя сцежкі — чалавечыя. Хіба толькі зімой не відаць іх, калі накрывае белай коўдрай бліндажы і акопы. З таго дня, як фронт урэшце рушыў на захад (чэрвень 1944 года), гаспадаром тут стаў марадзёр (чамусьці ў БелСЭ пра гэты тэрмін нічога не сказана, а ў тлумачальным слоўніку С. І. Ожэгава гаворыцца: «Марадзёр — той, хто рабуе насельніцтва ў раёнах ваенных дзеянняў, а таксама забітых і параненых на полі бою».

Мне паказвалі дамы, якія пабудавалі марадзёры за выручаныя грошы ад знойдзенай зброі, патронаў, гранат, за нарабаваныя залатыя зубы і каронкі, за швейцарскія гадзіннікі і срэбныя ўзнагароды. Нават чалавечыя чарапы прадаюцца на чорным рынку (па чырвонцу за адзін), і выкарыстоўваюць іх на святламузыку, попельніцы, на начныя бра. Франтавыя акопы «кармілі» некаторых няблага, шмат хто жыве гэтым і цяпер.

Але што гэта я ўсё не пра тое. Не пра тых, у каго дарога сюды з іншаю мэтай, з чыстымі сэрцамі і душою, з чыстымі рукамі. Два гады (толькі два гады) прыязджаюць на зямлю, дзе дзевяць месяцаў стаяў фронт, «Русічы»— пошукавы атрад з аршанскага ПТВ —110, які арганізаваў выкладчык гісторыі Рыгор Шарай. За гэты час імі адкапана ўжо амаль паўтысячы астанкаў байцоў, знойдзена за дзве сотні імёнаў па ўзнагародах, дакументах, медальёнах, надпісах на фляжках і партсігарах. Кожная экспедыцыя дае гэтыя бясцэнныя знаходкі. Бясцэнныя, бо, скажам, як ацаніць маці тую навіну, што знойдзены астанкі яе сына, ці жонцы — яе мужа, ці дзецям — іхняга бацькі, якія загінулі «без вестак...» І на свежыя магілы прыязджаюць незнаёмыя пасівелыя людзі. Як усё гэта ацаніць?

— А што далей?— запытаў неяк у Рыгора Шарая.

— Пошук і пошук. Днямі і гадамі. Бо калі мы не паспеем, марадзёры знішчаць апошнія сляды...

Цяжкая, урэшце, праца. Каб зямля забылася пра вайну і кожны, хто ў ёй забыты,—быў па-людску пахаваны. Трэба спяшацца, пакуль не знішчаны апошнія сляды.

**А. КЛЯШЧУК.**

Фота аўтара. Здымкі зроблены мінулай восенню.







ЧЫТАЧ—ГАЗЕТА—ЧЫТАЧ

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

●

Здзівіла аб'ява Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. У ёй паведамляецца, што інстытут праводзіць набор слухачоў на дзесяцімесячнае падрыхтоўчае аддзяленне па завочнай форме навучання на заінжынерны і аграхімічны факультэты. Пералічваюцца неабходныя дакументы, сярод якіх — накіраванне, якое павінна быць падпісана не толькі кіраўніком прадпрыемства, але і **«сакратаром камсамольскай (партыйнай) арганізацыі».**

Маладзёжная арганізацыя ў нашай рэспубліцы, здаецца, пакуль што адна — камсамольская. Але вось сакратар якой партыйнай арганізацыі павінен цяпер падпісваць накіраванне? У нас жа законам зацверджана шматпартыйнасць. Ну, а калі чалавек наогул не належыць ні да якой партыі, як быць яму? Чакаць ласкі партыйных сакратароў, якія і вырашаць ягоны лёс?

**У. АЛЯХНОВІЧ,**
**эканаміст.**
г. Мінск.

●

Даведаўся з артыкула «І храм, і музей» («ЛіМ» за 1 лютага г. г.) пра тое, што ў канцэртнай зале Рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі, у так званай «Зімовай царкве», гучыць замежная музыка, наладжваюцца выстаўкі літоўскіх і польскіх мастакоў, праводзяцца вечары рускай паэзіі...

Я не супраць прапаганды культуры іншых народаў, але толькі каб гэтая прапаганда не ўціскала нашай нацыянальнай годнасці. Дзе ж наш нацыянальны гонар, наша беларускасць, наша нацыянальная гісторыя рэлігіі? Хіба няма чаго расказаць пра нацыянальную беларускую паэзію, пра нашу гістарычную спадчыну?

Калі мы навучымся шанаваць сваю нацыянальную культуру, прапагандаваць сярод насельніцтва сваё духоўнае багацце?!

**І. ЯНУКОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы.**
г. Полацк.

●

Тая ідылія, якую малюе І. Ласкоў у артыкуле «Ці скарыстаем шанц?» за 8 лютага г.г., разбураецца дазвання, калі глядзець на палітычнае становішча ў Беларусі не з Якуцка, а з самой Беларусі. Так, Беларусь павінна быць незалежнай. Але гэта не азначае, што яна павінна самаізалявацца ад суседзяў. Бо толькі добрыя і стабільныя адносіны з суседзямі могуць быць гарантам захавання незалежнасці самой Беларусі. Гэта па-першае.

Па-другое, мяне абураюць захады аўтара супраць Расіі. Нельга атаясамліваць народы Расіі з шавіністамі, бо гэта не так. Я далёкі ад яе ідэалізацыі, але не трэба рабіць з Расіі жахлівую здань, якая толькі і пільнуе даверлівую Беларусь. А людзі хутчэй паедуць шукаць долі не ў Расію, а на Захад.

Я цалкам згодны з аўтарам у тым, што толькі незалежнасць дасць Беларусі рэальны шанц паставіць усе свае справы з галавы на ногі.

**Д. АБРАМЫЧАЎ,**
**студэнт МДПІ**
**імя М. Горкага.**
г. Мінск.

# а. Аляксандр НАДСАН:

# «ТОЕ, ШТО НАС ЛУЧЫЦЬ, БОЛЬШАЕ ЗА ТОЕ, ШТО ДЗЕЛІЦЬ»



**Пра айца Надсана, яго дабрачынную місію дапамогі чарнобыльскім ахвярам на Беларусі, безумоўна, чулі. Але які ён чалавек як асоба мала хто ведае. А гэта асабліва важна, калі прыпомніць той паклёпніцкі вэрхал, які час ад часу пачынаецца супраць яго ў беларускім друку.**

**Дарэчы, 16 снежня мінулага года я выступіла па беларускай праграме радыё «Свабода» з «рэплікай з нагоды» — «Малюнак адной фарбай», наконт чарговай кампаніі супраць Надсана (у «Звяздзе» ад 21 лістапада і «Вячэрнім Мінску» ад 7 снежня 1990 г.).**

**Галоўнае і адзінае абвінавачванне, якое высоўваецца супраць Надсана, — яго ўступленне зялёным юнаком у Саюз Беларускай Моладзі, хаця ніякіх доказаў здрадніцтва айца Аляксандра няма.**

**Мэты СБМ я асабіста не магу прыняць ні па маральных, ні па нацыянальных прычынах. Мае дзед з бабуляй былі забіты фашыстамі, бацька цяжкапаранены на фронце. Але я катэгарычна супраць таго, каб на кожны складаны (і «нескладаны») лёс глядзець са сваёй званіцы альбо са свайго асабістага прыпеку, кіравацца эмоцыямі, ці па-ранейшаму «класавымі інтарэсамі», колерам ідэалогіі. Няўжо наша шматпакутная гісторыя ніколі не навучыць нас быць больш абачлівымі, аб'ектыўнымі ў сваіх ацэнках!**

**Праз два тыдні пасля таго, як прагучала мая «рэпліка з нагоды», я прыехала ў Гомель і, уладкоўваючыся ў гатэлі «Турыст», даведалася, што напярэдадні тут пасяліўся айцец Надсан. Здараецца ж такое!**

**Пазнаёміла нас Ларыса Верас, супрацоўніца беларускай праграмы радыё «Свабода», якая ў тыя дні наведала Гомель у якасці перакладчыцы мюнхенскіх евангелістаў-лютэран, сабраўшых гуманітарную дапамогу для дзяцей-чарнобыльцаў, і якую айцец Аляксандр добра ведае з яе студэнцкіх гадоў.**

**Пасля была ў мяне гутарка з айцом Надсанам яшчэ і ў Мінску. Трымаючы перад сабой падараваны мне айцом Аляксандрам, напісаны ім і выдадзены ў мінулым годзе ў Іспаніі «Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі» — «Наша вера», я падумала: «А чаму б і па матэрыялах нашай з ім гутаркі не зрабіць своеасаблівы катэхізм!»**

**Свае пытанні і адказы айца Аляксандра даю ў скарочаным выглядзе, захоўваючы своеасаблівасць гаворкі майго субяседніка.**

## Дарога да Бога

**— ...Вы надзею на адраджэнне бачыце перш за ўсё ў рэлігійным адраджэнні?**

— Нацыянальнае адраджэнне мае сваё, вельмі важнае месца ў нашым жыцці. Яно ў пэўным сэнсе аўтаномнае. Але трэба надаць яму моцную духоўную базу. І гэтай базай з'яўляецца рэлігія...

...Я хацеў бы ў апошнія гады, чкія мне Бог даў, больш аддаць таму, што мне найбліжэйшае сэрцу, каб даць нейкую духоўную страву для беларусаў...

Вось я нядаўна прыгатаваў беларускі катэхізм, выданы пры дапамозе нашых нямецкіх сяброў - дабрачынцаў. Цяпер рыхтую пераклад Бібліі для дзетак, — хутка, магчыма, у гэтым годзе ўжо выйдзе. Трэба Маліто́ўнік прыгатаваць новы, каб пасля прысладь сюды. Справа ў тым, што тут, на Беларусі, вельмі ж мала спецыялістаў якраз у рэлігійнай галіне. Ці праваслаўных, ці каталікоў — аднолькава. Ну проста няма сваіх, не было магчымасці ўзгадаваць... Вось яшчэ адзін клопат — памагчы ва ўзгадаванні беларускіх святароў.

**— А як вы збіраецеся іх «гадаваць»?**

Тут ужо ёсць некалькі кандыдатаў. Магчыма, будзе больш. Мне прыйдзецца ўзяць іх з сабою ў Лёндан, каб увесці ў рэлігійнае жыццё. Гэта ўсе маладыя людзі, у якіх шмат добрай волі, але якія не мелі рэлігійнага ўзгадавання. Пасля пробнага перыяду, скажам, у нас у Лёндане, калі яны астануцца ў намеры быць святарамі, — будзем старацца ўладкоўваць іх у рэлігійных установах. Скажам, у Англіі. Магчыма, у Рыме таксама...

Цяпер ёсць адна каталіцкая семінарыя ў Беларусі, у Гродне. Яна пачала сваю працу ў пачатку гэтага навучальнага года... Але там навучанне вядзецца большай часткай на польскай мове. Беларуская мова вывучаецца толькі як прадмет. Там кандыдатам, я думаю, беларуская мова як прадмет не патрэбна... Ці не кожны з іх добра гаворыць па-беларуску. Але ім трэба даць добрае багаслоўскае ўзгадаванне, магчыма, спецыяльнасць...

## З Богам на роднай мове

**— Калі вы возьмеце маладых беларусаў у Лондан, як вы там іх будзеце вучыць? Ці ведзяце вы там сваю службу па-беларуску?**

— У нас ужо шмат гадоў багаслужэнні адбываюцца на беларускай мове. Калі яны паедуць у ангельскія навучальныя ўстановы ці ў Рым, там, безумоўна, будуць вучыцца па-ангельску ці па-італьянску. Думаю, што навучацца яшчэ адной замежнай мове, гэта таксама толькі на карысць...

**— Гэта сапраўды так, але колькі ж там, у Лондане, беларусаў, што нават службу па-беларуску ведзяце?**

— Колькі ні ёсць, заўсёды молімся Богу, молімся на роднай мове. Бо маліліся і тады на роднай мове, калі гэта было немагчыма тут, на Бацькаўшчыне, і маліліся за ўвесь беларускі народ.

...Гэта нельга нават назваць прыходам, маем маленькую царкоўку. Людзі збіраюцца кожную нядзелю і свята. Але мы молімся кожны дзень, і ў будния дні таксама — сваю божую службу, і ранішай, і вечарам...

Паміж сабою мы молімся па-беларуску. А часам мяне запрашаюць англічане, каб адправіць божую службу ў іх царкве, тады служу па-ангельску, безумоўна. Але ў нашай царкве мы молімся толькі па-беларуску.

**— Вы ў Гродна едзеце. Польская мова больш выкарыстоўваецца там, чым беларуская. Як вы ставіцеся да гэтага пытання і якія ў вас адносіны з біскупам Кандрусевічам?**

— Безумоўна, хацелася б, каб усе беларусы маліліся на роднай мове. Але тут вялікія цяжкасці, бо да гэтага часу духавенства, якое было тут, было каталіцкае, польскае. Цяпер не хапае святароў, многія з іх прыязджаюць з Польшчы, не ведаючы па-беларуску. Але я ўбачыў зрухі да лепшага, шмат добрай волі сярод святароў.

Калі я быў у Гомелі, там быў польскі святар, які стараецца навучыцца беларускай мове, весці службу па-беларуску. Гэта яму даволі цяжка даецца, але ён гэта робіць, і робіць свядома. Я прысутнічаў на яго богаслужэнні, і было прыемна чуць, як усе беларускія вернікі спявалі калядкі па-беларуску. Гэта ўжо зрух наперад. У напрамку, якраз патрэбным для нас.

Біскуп Кандрусевіч з'яўляецца гаспадаром тут, у Беларусі, для ўсіх каталікоў. Ён хоць і лічыць сябе палякам, ведае беларускую мову і стараецца паволі ўводзіць яе ў богаслужэнне. Наколькі я чуў, богаслужэнне на беларускай мове адбываецца ў Менску хоць бы раз у нядзелю, а таксама ў іншых мясцовасцях — у Баранавічах, напрыклад. Ну аб Вішневе ўжо не буду гаварыць, там айцец Чарняўскі, ён заўсёды маліўся па-беларуску. Чуў таксама пра іншых святароў.

Дык я кажу, памаленьку будуць узгадоўвацца новыя святары, маладыя беларусы, выхадцы з семінарыі. Яны, безумоўна, будуць весці ўжо працу на беларускай мове.

## Бог заклікае да міласэрнасці

**— На жаль, ёсць спробы ў нашай так званай атэістычнай дзяржаве спекуляваць на інтарэсе да рэлігіі... Спекуляваць у тым сэнсе, што рэлігію ў нас пачалі выстаўляць, дзе трэба і не трэба, а гэта ўсё-такі, згадзіцеся, больш інтымнае, духоўнае жыццё чалавека, яно такім павінна быць. Ці ж трэба выстаўляць яго напаказ усяму свету — вось, маўляў, мы якія сталі зараз цярплівыя, як любім рэлігію.**

— Ну што ж, свабода рэлігіі — з'явішча новае ў Савецкім Саюзе і ў Беларусі таксама. І магчыма, дзеля гэтага так шмат гаворыцца пра яе, выстаўляецца наперад.

З часам, я думаю, усё гэта выстаткуецца, стане на сваё месца. Калі ідзе пра злоўжыванне рэлігіі, дык яно ёсць усюды, таксама і на Захадзе. Ведаеце, людзі ёсць людзі, і з найлепшых рэчаў могуць зрабіць вельмі дрэнная. Дай Бог, каб гэтага было не вельмі зашмат, асабліва ў Беларусі.

Але рэлігія мае два аспекты: асабісты — нашы адносіны да нашага Творцы, да Бога, — і грамадскі, бо мы жывём у грамадстве. Мы не можам пазбегнуць гэтага. Толькі трэба ўмець знайсці сярэдзіну добрую аднаго і другога і спалучыць сваю асабістую рэлігійнасць з грамадскім аспектам, калі мы молімся супольна не для паказу, а для патрэбы душы.

**— У нас, на жаль, ёсць і іншыя рэчы, на якіх людзі спекулююць... Дабрачынную місію чарнобыльцам таксама не заўсёды выкарыстоўваюць у дабрачынных мэтах...**

— Магу толькі паўтарыць тое, што раней сказаў: людзі ёсць людзі. І заўсёды знойдзецца нехта, хто захоча злоўжываць добрай справай ці дзеля свайго асабістага інтарэсу ці нейчага іншага.

Не ведаю, ці спосаб, якім мы ставімся дапамагаць ахвярам чарнобыльскай бяды, найлепшы, але мы так разважылі яшчэ ў Лёндане—нашу дапамогу аддаваць адразу ў шпіталі, дзе ёсць найбольшая патрэба... Сярод людзей, занятых справай дапамогі ахвярам Чарнобыля, я знайшоў больш добрых і ахвярных, чым тых, якія хочуць нажыцца на бядзе.

**— З Гомеля вы ездзілі ў Хойнікі. Вы прывозілі ў гэтую бальніцу і раней нешта?**

— Так. Першы раз прыехалі летам, у ліпені мінулага года. Тады мы не ведалі, якія там патрэбы, але прывезлі тое, што заўсёды патрэбна, — аднаразовыя шпрыцы, сістэмы пералівання крыві і падобныя рэчы. І тады мы спыталіся ў лекараў, што для іх патрэбна з лекаў. І гэтым разам прывезлі...

Думаю, мы не можам абслугоўваць усіх бальніц Беларусі. Гэта было б зашмат для нас. Каб наша дапамога была карыснай, думаю, трэба трымацца тых бальніц, якія ўжо нас знаюць і патрэбы якіх нам вядомы. Але гэта не выключае, што мы можам пашырыць поле нашай дзейнасці — паехаць, скажам, на Магілёўшчыну.

...Пасля першай паездкі ў Беларусь мной зацікавіліся ангельскія сродкі інфармацыі. Я выступаў па тэлебачанні, пра мяне пісала ангельская прэса. Пасля гэтага пасыпаліся і ахвяраванні, і прапановы дабрачынныя з усіх куткоў Англіі, нават Шатландыі... Мы цяпер маем ужо сотні прыяцеляў, якія нам дапамагаюць. Заўсёды мы стараемся трымаць з імі сувязь, выдаючы такі бюлетэньчык... Я шмат езджу, раблю гутаркі па гэтай справе.

Наш камітэт збірае фонды, на якія купляе адпаведныя лекі. Мы не хочам, каб людзі давалі лекі, паколькі гэта вельмі спецыяльныя лекі, трэба іх купляць у шведаў. Такім чынам, мы вось ужо трэці раз прывозім і будзем старацца, каб рабіць тое самае і ў будучыні.

**— Радуе ваш энтузіязм... Трэба мець велізарную энергію і здароўе і не толькі іх, а нешта большае, каб з Лондана прыехаць у Гомель... Што ж кіруе вамі?**

— Цяжка адказаць на такое пытанне... Думаю, што кожны, хто б пабачыў, якія вялікія патрэбы, якое цярпенне, асабліва дзетак нявінных, не астаўся б раўнадушным і рабіў тое ж самае, што я раблю.

Бог яшчэ дае сілы рабіць, дзякуй яму за гэта. І калі б не рабіў, лепш было б не называцца тады беларусам.

## Бог вучыць не зважаць на крыўду

**— ...У 65 гадоў ехаць праз тры краіны ў нашу — гэта не вельмі проста. Асабліва пасля таго, як у нашым друку вас зневажаюць.**

— На гэта не звяртаю ўвагі. І калі хваляць — таксама стараюся захоўваць спакой духу... Ці калі лаюць, таксама... Ну што ж, калі хочуць, калі так думаюць... Але хацелася б, каб усё гэта было ў нейкім прыстойным тоне.

**— У нас у прыстойным тоне, на жаль, не могуць, у нас заўсёды крайнасці. Калі ўжо дрэнныя, дык дрэнныя. Калі ўжо пішуць добрае, дык занадта добрае, — гэта ў нас у традыцыях бальшавіцкага друку. Але мне здаецца, што ўсё ж такі прыйдзе час, калі сапраўдная гісторыя пакутнай Беларусі і асабліва перыяду ад 17 года, уключаючы гады Вялікай Айчыннай вайны, будзе напісана.**

**Асабліва, калі ўспомніць, што вас увесь час лаюць за тое, што ўступалі ў Саюз Беларускай Моладзі. З'ява гэта не такая простая, і адной чорнай фарбай, альбо адной іншай гэта ўсё маляваць, я лічу, непрыстойна наогул.**

— Ну што ж, вы маеце поўную слушнасць у гэтым. Так, сапраўды, да гэтага часу тут, у Беларусі, як ва ўсім Савецкім Саюзе, усе гістарычныя з'явы малявалі толькі ў двух колерах — белым і чорным. Але так у сапраўднасці не ёсць, — ёсць так шмат розных адценняў: і больш белы, і менш белы, і шэры, і цямнейшы, і гэтак далей. Трэба з гэтым лічыцца, бо жыццё вельмі складанае. Думаю, што з часам праўда выйдзе наверх, і будзе напісана аб'ектыўная гісторыя нашага народа і гэтага цяжкага перыяду, які яму прыйшлося перажыць ад 17 года да апошняй вайны.

Як у кожным перыядзе, было вельмі шмат з'яў цяжкіх, шмат цярпенняў, шмат зла было зроблена, але былі і дадатныя бакі гэтага. Калі гаворка ідзе

